



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

5 чэрвеня 2020 года №23 (1310)

18+








## Жыхарка Чысці расказала, як вылечылася ад каронавіруса

старонка 7

## Гісторыя віляйчанкі, якая ў спісе «вераснёвых смертнікаў» 1939 года знайшла свайго дзеда

старонка 17

# Успамінаем першы фестываль «Маладзечна» і яго стваральніка Генадзя Карпенку

Генадзь Карпенка з жонкай Людмілай.

Сёлета Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі не адбудзецца праз пандэмію. У дні, калі звычайна ладзяць фестываль, расказваем, як ён прайшоў упершыню, і прыгадваем яго заснавальніка

старонкі 18-19

На фота: Алена Міронава і юныя Уладзімір і Марыя Садоўскія на фоне сцэны першага фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне. Фота Валянціны САДОЎСКАЙ. Адлічбаваў Яўген СТЭЛЬМАХ.




ISSN 1991–7155




Адсканцуйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Ці браць школьныя даведкі ў месяц нараджэння дзіцяці?

За апошнія гады дзіцячыя паліклінікі прывучылі бацькоў да зручнай схемы – брацьдаведкі ў школу ў месяц нараджэння дзіцяці.

Гэта дазваляе размеркаваць нагрузку на дактароў раўнамерна цягам года. Даведка дзейнічае год, і дзеці своечасова мусяць абнаўляць яе кожны ў свой месяц нараджэння.

**Аднак у сувязі з неспрыяльнай эпідэміялагічнай абстаноўкай сітуацыя змянілася.**

Як паведамілі ў Маладзечанскай дзіцячай паліклініцы, пакуль дактары раяць абмежаваць прафілактычныя візіты да дактароў без вострай неабходнасці.

Таму рабіць даведку для школы можна не ў месяц нараджэння дзіцяці, а пазней, калі эпідэміялагічная абстаноўка будзе больш спрыяльная.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Запрашаюць на анлайн-трансляцыю фільма пра экалогію

**У Сусветны дзень навакольнага асяроддзя, 5 чэрвеня, Цэнтр экалагічных рашэнняў у супрацоўніцтве з рухам #breakfreefromplastic і Платформай па пластыку ПРААН у Беларусі ладзіць у анлайн-кінатэатры прагляд карціны «Гісторыя пластыку». Пасля прагляду адбудзецца дыскусія.**

Фільм стварыла каманда, добра знаёмая многім праектам «Гісторыя рэчаў». «Гісторыя пластыку» падрабязна разглядае антрапагенны крызіс пластыкавага забруджвання і сусветны эфект, які пластык аказвае на здароўе планеты і людзей.

Фільм ілюструе працяглую катастрофу: палі, поўныя смецця, горы смецця ў рэках і морах, паветра, забруджанае выкідамі з вытворчасці і перапрацоўкі пластмас. «Гісторыя пластыку» ўключае ў сябе інтэрв'ю з экспертамі, актывістамі, якія расказваюць аб глабальных праблемах з падтрымкай анімацыі, архіўных відэаролікаў пра прамысловасць (напрыклад, ад 1930-х гадоў) і праз інтэрв'ю.

Фільм дэманструецца на англійскай мове з рускімі субцітрамі. Ён будзе даступны ўсяго два дні па некалькі гадзін. Можна будзе адкрыць па спасылцы тым, хто закажа электронны білет бясплатна.

**Расклад прагляду:**

5 чэрвеня (ад 18:30 да 22:00) + дыскусія з экалагамі (пачатак у 20:30).

6 чэрвеня (ад 18:30 да 22:00) + эфір у фармаце «Пытанне–адказ» з «пластыкавай» камандай Цэнтра экалагічных рашэнняў у Instagram @ecoideaby (пачатак у 20:30).

Паглядзець фільм у іншы час будзе немагчыма. Праваабаронца абмяжаваў колькасць электронных білетаў, іх усяго 200 на кожны дзень. Каб атрымаць віртуальнае месца, трэба зарэгістравацца.

Для таго, каб патрапіць у інтэрнэт-кінатэатр, неабходна зарэгістравацца па спасылцы, якая зашыфраваная ў QR-кодзе.

**Паводле інфармацыі Цэнтра экалагічных рашэнняў.**





Фота з асабістага архіва Аляксандра ДАРАШЭВІЧА.

**Праблема пластыку і смецця – не далёкая і не абстрактная. Гаспадар аграсядзібы на Астравеччыне і пераможца ў намінацыі «Учынак года» конкурсу «Рэгіянальнай газеты» за 2018 год Аляксандр Дарашэвіч пастаянна ладзіць акцыі па прыборцы на Сарачанскіх азёрах. Падчас адной з прыборак валанцёры за некалькі гадзін сабралі 1400 літраў смецця.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

# Пачалі адключаць гарачую ваду

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**Праз пандэмію адключэнне гарачай вады з мая перанеслі на лета.**

У Маладзечне адключэнне пачалося ад 3 чэрвеня для дамоў першай чаргі. Пра гэта расказалі ў цепласетках Маладзечанскіх электрасетак.

Ад 3 да 16 чэрвеня гарачую ваду адключылі на тэрыторыі горада ў бок Мінска ад вуліцы Віленскай. Тут гарачай вады не будзе ў мікрараёнах Усходні, №№6, 4, 10, па вуліцах Янкі Купалы, Касманаўтаў, ГЦ «Модуль» і «Тройка».

Ад 17 да 30 чэрвеня гарачую ваду адключаць у частцы горада ў бок Смаргоні ад вуліцы Віленскай. Гэта Гелянова, Бухаўшчына, Здземелева, Брадвей.

**Калі падчас апрасоўкі вы заўважыце праблемы з водазабеспячэннем, звяртайцеся на нумары 115 або (8-0176) 72-64-27.**

Як паведамілі ў Вілейскай ЖКГ, планавае адключэнне гарачай вады ў горадзе перанеслі з мая на жнівень. Традыцыйныя гідраўлічныя выпрабаванні ў Вілейцы правядуць ад 10 да 23 жніўня. З пытаннямі звяртайцеся па тэлефоне **(8-01771) 2-55-35**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Для медыкаў рэгіёна перадалі 1400 літраў пітной вады

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

22 мая прадстаўнікі адной з вядомых кампаній перадалі для медработнікаў Вілейкі, Маладзечна і Мядзела пітную ваду.

300 літраў атрымалі мядзельскія медыкі, 500 літраў – маладзечанскія, 600 літраў даставілі ў Вілейскую ЦРБ.

**Аддзел інфармацыі.**

## Святлана Хрусталёва больш не галоўны архітэктар

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта нам паведамілі ў аддзеле архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама.

**Па словах спецыялістаў, начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама, Святлана Георгіеўна не працуе ад пачатку мая.**

Пакуль яе абавязкі выконвае намеснік начальніка аддзела **Андрэй Шаўцоў**.

**Аддзел інфармацыі.**

## На сельгаспрадпрыемстве «Алая зара» – новы кіраўнік

ВІЛЕЙКА

Як паведамілі ў аддзеле кадравай работы Вілейскага райвыканкама, пасаду дырэктара сельгаспрадпрыемства цяпер займае **Андрэй Шупенька**.

Ён узначальвае «Алую зару» ад 1 чэрвеня. Прадпрыемства знаходзіцца ў Ерхах. Кірункі дзейнасці: жывёлагадоўля, бульба, збожжа, лён, травы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## «Шэнген» па 35 еўра. ЕС ухваліў візавае пагадненне з Беларуссю

Рада ЕС ухваліла пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі з Беларуссю.

У адпаведнасці з пагадненнем аб спрашчэнні візавага рэжыму кошт кароткатэрміновых шэнгенскіх віз для беларускіх грамадзян знізіцца з 80 да 35 еўра. Скарачаецца спіс дакументаў, якія неабходна падаць пры звароце па візы, прадугледжваецца магчымасць выдачы шматразовых віз на тэрмін ад аднаго года да пяці.

**Час прыняцця рашэння аб выдачы візы скароціцца да 10 дзён, многія катэгорыі грамадзян змогуць звяртацца па бясплатную візу.**

Як раней тлумачылі ў беларускім МЗС, «дамовы ўступяць у сілу ў першы дзень другога месяца пасля атрымання адпаведнага паведамлення ад еўрапейскага боку».

**Паводле БелТА.**

## У Беларусі зацвердзілі правілы бяспекі для АЭС

Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Беларусі зацвердзіла нормы і правілы ядзернай і радыяцыйнай бяспекі.

У дакуменце вызначаныя асноўныя крытэрыі і прынцыпы бяспекі, якія рэалізуюцца ў праекце АЭС і яе сістэм, патрабаванні да канструкцыі і актыўнай зоны станцыі.

Сістэма фізічных бар'ераў блока АЭС павінна ўключаць мяжу контуру цепланосьбіта рэактара, герметычную агароджу, паліўную матрыцу, абалонку цеплавыдзяляльных элементаў. А сістэма тэхнічных захадаў павінна ўтвараць пяць узроўняў глыбокаэшаланаванай абароны.

Вызначалі таксама мэтавыя арыенціры бяспекі АЭС у выглядзе велічынь неперавышэння сумарнай імавернасці аварый для кожнага блока АЭС, значнага аварыйнага выкіду, цяжкіх аварый для сховішчаў ядзернага паліва.

**Карпарацыя «Расатам» плануе цягам наступных тыдняў атрымаць ліцэнзію на эксплуатацыю першага энергаблока БелАЭС і запусціць яе.**

Інжынірынгавы дывізіён «Расатама» пацвердзіў завяршэнне прыёмкі ядзернага паліва для пачатковай загрузкі ў рэактар.

**Паводле «Радыё Свабода».**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**14** жанчын

у Беларусі ў 2019 годзе нарадзілі тройні

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 28.05 | 4.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4090 | **2.3885** |
| Еўра | 2.6425 | **2.6773** |
| Злоты, 10 | 5.9919 | **6.0971** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3935 | **3.4985** |
| Грыўня, 100 | 8.9251 | **8.9296** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 27.05 | 3.06 |
| Еўра | 2.5700/2.6700 | **2.6200/2.7200** |
| Долар ЗША | 2.3700/2.4350 | **2.3700/2.4400** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | 27.05 | 3.06 |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,06 | **23,00** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,30** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 5,98 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,35 | **6,35** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 10,50 | **10,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,80 | **16,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,85 | **1,90** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,35 | **1,35** |
| Алей, 1 л | 1,80 | **1,79** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,50 | **4,90** |
| Маянэз, 400 г | 2,00 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,85 | **1,85** |
| Агуркі, 1 кг | 2,50 | **2,40** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 1,50 | **1,70** |
| Капуста, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 2,00 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **6,80** |
| Радыс, пучок | 3,50 | **2,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,70 | **1,50** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **6,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **5,00** |
| Бананы, 1 кг | 3,20 | **3,50** |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | **7,00** |
| Гранат, 1 кг | 8,00 | **6,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,95 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 5,90 | **4,90** |
| Клубніцы, 1 кг | 14,00 | **17,00** |
| Лімон, 1 кг | 5,50 | **5,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Персікі, 1 кг | 7,00 | **10,00** |
| Чарэшні, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,80 | **2,99** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Скралі ўсе зберажэнні

**СМАРГОНЬ**

Міліцыянеры Смаргоні раскрылі крадзеж у асабліва буйным памеры. У 53-гадовага жыхара адной з вёсак Смаргоншчыны зніклі ўсе зберажэнні.

Мужчына заўважыў гэта, калі ў абед вярнуўся дадому. Ён звярнуўся да праваахоўнікаў. Па словах начальніка Смаргонскага РАУС **Аляксандра Клімянкова**, на раскрыццё крадзяжу задзейнічалі значныя сілы аддзела ўнутраных спраў: аператыўнікі крымінальнага вышуку, участковыя інспектары, супрацоўнікі патрульна-паставой службы міліцыі.

На працягу дзяжурных сутак міліцыянеры выйшлі на след зламыснікаў – выканаўцы і ініцыятара. Апошні з'яўляецца прыяцелем сына пацярпелага.

Менавіта сын мужчыны яшчэ ў мінулым годзе распавёў знаёмаму, што ў доме бацька захоўвае значныя зберажэнні.

Ініцыятар знайшоў выканаўцу і пасля крадзяжу перадаў яму частку грошай.

Практычна ўсё выкрадзенае канфіскавалі. Супрацьпраўным паводзінам маладых людзей, мясцовых жыхароў 26 і 20 гадоў, далі прававую ацэнку.

**Паводле УУС Гродна.**

## Унук выйшаў з дома, а бабуля згарэла

**МАЛАДЗЕЧНА**

29 мая каля паловы першай ночы маладзечанскім выратавальнікам паведамілі пра пажар у вёсцы Кізілава Гарадзілаўскага сельсавета.

Па прыбыцці выратавальнікаў дом гарэў адкрытым полымем. Суседзі паведамілі, што ўнутры можа быць чалавек. Работнікі МНС патушылі пажар.

У 01.20 знайшлі загінулую 71-гадовую гаспадыню. З ёй жыў 14-гадовы ўнук. Калі пачаўся пажар, хлопец пакінуў дом самастойна. Дачкі загінулай, якая таксама жыла ў доме, падчас пажару не было. Прычыну высвятляюць. Агонь знішчыў дах, дом выгараў знутры, засталіся сцены, паведамілі ў ГРАНС Маладзечна.

**МНС папярэджвае:** адныя з «падпальшчыкаў» нашых кватэр і дамоў дагэтуль застаюцца электрапрыборы, няспраўная электраправодка.

Пры эксплуатацыі электрапрыбораў неабходна выконваць наступныя меры пажарнай бяспекі:

- не ўстанаўлівацьіх каля прыбораў ацяплення. Для хуткага адключэння ад сеткі разетка, у якую ўключаны электрапрыбор, павінна знаходзіцца ў даступным месцы;
- не пакідаць уключанымі электрапрыборы без нагляду, не дапускаць выкарыстання дзецьмі ў адсутнасць дарослых;
- пасля выкарыстання электрапрыборы неабходна адключаць ад сеткі, выняўшы вілку з разеткі;
- не пакідаць тэлевізар у «рэжыме чакання», калі вы сыходзіце з дому і на ноч.

МНС рэкамендуе ўстанавіць пажарны апавяшчальнік.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дырэктар гаспадаркі прыпісваў лішнія кілаграмы ў справаздачы

**ВІЛЕЙКА**

Пракурор Вілейскага раёна пачаў крымінальную справу па факце службовай падробкі ў дачыненні да былога кіраўніка сельскагаспадарчага прадпрыемства Д. па частцы 2 артыкула 427 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

34-гадовы падазраваны, з'яўляючыся дырэктарам аднаго з ААТ, ад сакавіка 2017 года да сакавіка 2020 года арганізаваў і забяспечыў сістэматычнае ўнясенне падначаленымі работнікамі заведама лжывай інфармацыі пра прывагі жывёлы ў профільныя справаздачы жывёлагадоўчага комплексу. Пасля чаго такія звесткі па ўказанні Д. ішлі ў форму дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці 12-сг (жывёлагадоўля).

Кіраўнік прадпрыемства зацвярджаў справаздачу за адпаведны перыяд і праз спецыялізаванае праграмнае забеспячэнне накіроўваў у аддзел статыстыкі Вілейскага раёна. Гэта пацягнула за сабой скажэнне дадзеных дзяржаўнай статыстыкі аб прыбаўленні вагі жывёлы ад вырошчвання і адкорму агульнай вагой больш за 370 тон.

Матыў – стварыць бачнасць эфектыўнага кіраўніцтва і спрыяльнай эканамічнай абстаноўкі ў гаспадарцы, пазбегнуць прыцягнення да дысцыплінарнай і матэрыяльнай адказнасці.

Крымінальная справа для арганізацыі папярэдняга расследавання накіраваная ў Вілейскі раённы аддзел Следчага камітэта.

**Паводле Генпракуратуры.**

# Хлопец адпачываў з сябрамі, а потым бясследна знік

### Праз тры дні яго цела знайшлі ў рацэ

**АСТРАВЕЦ**

**У рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты» звярнуліся сваякі жыхара Астраўца, 17-гадовага Рамана Г., з просьбай аб дапамозе з пошукамі маладога чалавека.**



Фота забяспечана чытачамі.

Падчас пошукаў.

Яны расказалі, што 29 мая хлопец адпачываў разам з сябрамі на рацэ Лоша ў Астраўцы. Прыкладна ад 23:00 да 00:00 ён знік. Па словах сваякоў, у час знікнення на хлопцу не было верхняй вопраткі і мабільнага тэлефона.

Як сказалі сваякі хлопца карэспандэнту, яго сябры распавялі, што Раман пайшоў купацца. Зніклага шукалі спецыялісты МНС, міліцыя, Асвод і валанцёры.

1 чэрвеня валанцёры пошукава-выратавальнага атрада «Анёл Паўночны Захад» паведамілі, што з дапамогай спецыяльнага прыбора адшукалі цела зніклага хлопца ў 250-300 метрах ад берага. Спецыялісты Асвод паднялі яго на паверхню.

**Аддзел інфармацыі.**

## У забойстве жанчыны падазраюць яе сужытніка

**ВАЛОЖЫН**

Увечары 22 мая ў міліцыю Валожына паведамілі, што ў прыватным доме знайшлі памерлую жанчыну з нажавымі раненнямі.

Следча-аператыўная група агледзела месца здарэння, абследавала двор, зафіксавала выяўленыя сляды, канфіскавала рэчавыя доказы, пагутарыла з жыхарамі.

Па падазрэнні ў забойстве затрымалі 66-гадовага гаспадара дома. Цяпер праводзяць яго допыт і іншыя следчыя дзеянні.

Згодна з матэрыяламі крымінальнай справы, сужыткі пасварыліся. З-за чаго, затрыманы не можа прыгадаць. Падчас сваркі нецвярозы мужчына схапіў нож і нанёс жанчыне смяротныя раненні. Потым некалькі дзён піў у тым доме.

Цела пацярпелай на падлозе знайшоў кіроўца пошты, які прывёз жанчыне пенсію, паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Затрыманаму прад'яўляюць абвінавачанне па частцы 1 артыкула 139 (забойства) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Яго заключылі пад варту. Канчатковую кваліфікацыю яго дзеянням дадуць па выніках расследавання.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Аўтамабіль збіў васьмікласніцу

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося 28 мая каля 14 гадзін.

Аўтамабілем «Форд» кіраваў жыхар Маладзечна 1949 года нараджэння. Ён ехаў па вуліцы Янкі Купалы ад плошчы Старое Места ў бок Мінска.

Каля дома №68 па нерэгуляваным пешаходным пераходзе пераходзіла дарогу вучаніца 8 «А» школы №1. Аўтамабіль наехаў на дзяўчынку 2006 года нараджэння.

Школьніца атрымала пашкоджанні, яе шпіталізавалі.

Па справе праводзяць праверку, распавёў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Маладзечанка трапіла пад цягнік у Татаршчыне

**МАЛАДЗЕЧНА**

28 мая каля 14:30 на чыгуначным перагоне Маладзечна-Уша, у Татаршчыне, пад грузавы цягнік «Маладзечна-Мінск» трапіла 52-гадовая маладзечанка.

Жанчына выйшла на пуці перад цягнікам, які набліжаўся. Машыніст экстранна затармазіў, але пазбегнуць трагедыі не атрымалася. Маладзечанка загінула на месцы.

**Паводле МУС.**

## На пажары загінуў гаспадар дома

**АШМЯНЫ**

Пра пажар у вёсцы Ляйлубка Жупранскага сельсавета выратавальнікам паведамілі ноччу 31 мая, каля паловы на другую.

Гарэў жылы дом. Агонь пашкодзіў сцены, знішчыў перакрыцці даха і маёмасць. На пажары загінуў 55-гадовы гаспадар дома. Прычыну высвятляюць.

**Паводле МНС.**

## Ноччу на дарозе загінуў пешаход

**ВАЛОЖЫН**

Інцыдэнт адбыўся 30 мая каля паловы першай ноччу. Паводле папярэдняй інфармацыі, на 47-м кіламетры аўтадарогі М6 Мінск – Гродна 25-гадовы кіроўца «Міцубісі» збіў 59-гадовага пешахода.

Той ішоў па праезнай частцы без флікера. Пешаход загінуў на месцы здарэння.

ДАІ просіць пешаходаў перасякаць праезную частку строга ва ўстаноўленых для гэтага месцах і на дазваляльны сігнал святлафора. У цёмны час сутак трэба пазначаць сябе флікерам.

**Паводле БелТА.**

## Мужчына выратаваў суседку з пажару

**МАЛАДЗЕЧНА**

27 мая ў 21:25 выратавальнікам паведамілі пра ўзгаранне ў дзевяціпавярховіку па Вялікім Гасцінцы. Падраздзяленні МНС устанавілі, што ёсць задымленне ўнутры двухпакаёвай кватэры.

Да прыезду выратавальнікаў сусед уратаваў гаспадыню. Жанчына самастойна выйсці не магла. Яна жыве разам з сынам, які сам пакінуў кватэру, паведамілі ў ГРАНС Маладзечна.

Пажар лакалізавалі і ліквідавалі выратавальнікі. Эвакуацыя жыхароў суседніх кватэр не спатрэбілася. У выніку агонь пашкодзіў пасцель у жылым пакоі на агульнай плошчы чатыры квадратныя метры. Прычыну высвятляюць.

**Аддзел інфармацыі.**








Фота забяспечанае Дзмітрыем ГІЛЕМ.

Смаргонскія валанцёры перадалі толькі ахоўных касцюмаў больш за 350 штук.

# У Смаргоні валанцёры шыюць камбінезоны для медыкаў

СМАРГОНЬ

**Група валанцёраў цягам двух месяцаў шые прыстасаванні для абароны медыцынскіх работнікаў.**

За гэты час пашылі і перадалі медыцынскім работнікам 350 ахоўных камбінезонаў, 150 халатаў, 150 пар бахіл, 100 шапачак, 140 нарукаўнікаў, каля 400 масак.

Арганізавала валанцёраў мясцовая жыхарка **Алена Гіль**. Яна швачка, мела сваё атэлье па рамонце адзення. Пасля нейкі час жыла ў Польшчы.

**Пандэмію жанчына сустрэла ў Беларусі і вырашыла, што можа дапамагчы медработнікам абараніць сябе.**

Ідэю падказала знаёмая **Марына Калпакова**, якая шыла камбінезоны для дактароў у Мінску, яна ж спачатку перадала тканіну для пашыву. Праз сацыяльныя сеткі заклікала далучыцца да актыўнасці. Агулам сабралася каля 25 валанцёраў. З іх дзесяць чалавек шыюць пастаянна.

**У камандзе сабраныя людзі розных прафесій. Некаторыя шыюць пасля працы, іншыя – у дэкрэтным адпачынку.**

– Група, што шые сродкі індывідуальнай абароны для дактароў, падабралася выдатная, – расказвае Гіль. – Кожная зрабіла вялікі ўнёсак у пашыве неабходнага для медыкаў. Кожная аддала каштоўны час. І ўсё, што мы робім, робім ад душы.

Алене дапамагае муж **Дзмітры** – займаецца кройкай, дапамагае перавозіць пашытыя рэчы.

Тканіну перадавалі на дабрачынных пачатках. Два рулоны спанбонда перадала жанчына з Маладзечна, першы крой іншая жанчына, рулон куплялі за сродкі ад касцёла святога Яна Паўла ІІ, два рулоны перадала арганізатар з Мінска.

Частку вырабаў перадаюць смаргонскай «хуткай дапамозе» і цэнтральнай раённай бальніцы, некаторыя рэчы дасылаюць на Мінск.

Менавіта камбінезоны былі першай і галоўнай мэтай каманды. Якраз іх не хапала для дактароў і медсясцёр, якія працуюць з пацыентамі з каронавірусам.

**– Вось сёння раздалі 80 штук выкраек халатаў для смаргонскай «хуткай дапамогі», – расказвае Алена. – Калі прывозім вырабы, перадаём галоўнай медсястры. Нам вельмі дзякуюць за дапамогу.**

Калі вы хацелі б дапамагчы ініцыятыве Алены Гіль, можна звязацца з ёй па вайберы праз нумар **(8-025) 787-67-70.**



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# «Выйшла з бальніцы і страціла прытомнасць»

## Жыхарка Чысці – пра тое, як перажыла каронавірус

МАЛАДЗЕЧНА

**Ужо некалькі дзён жыхарка Чысці Ясенія Мікуліч – дома. Прыходзіць у сябе пасля бальніцы, дзе лячылася ад каронавіруса. Пра тое, як даведалася пра хваробу, лячылася і ачуняла, Ясенія расказала карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты».**

– Днямі муж прыехаў забіраць мяне з бальніцы. Выйшла з ім і страціла прытомнасць. Добра, што ён паспеў падхапіць.

> **Потым дома ў той дзень некалькі разоў прытомнасць губляла. Напэўна, ад таго, што вельмі доўгі час не была на вуліцы, – прыгадвае Ясенія дзень выпіскі.**

### Ёсць яшчэ і кашаль, і галавакружэнне

Кажа, што адчувае сябе нядрэнна, але і не зусім здаровая. Ёсць яшчэ і цяжкі надакучлівы кашаль, і млявасць, і боль у сэрцы, і галавакружэнне. Але ў параўнанні з тым, што было, – самаадчуванне добрае. Штодзень тэлефануюць дактары, пытаюцца, як яна сябе адчувае.

> **У бальніцы піла эксперыментальныя таблеткі з нялёгкімі пабочнымі эфектамі, перанесла шмат кропельніц.**

Пачалося ўсё ад 13 красавіка. Спачатку ляжала ў Чысці, потым забралі ў бальніцу №1 у Маладзечне, паклалі ў так званую «брудную зону». Калі нарэшце тэст паказаў адмоўны вынік, далечвалася ў бальніцы №2 у Маладзечне. Усяго рабілі некалькі тэстаў. Чатыры першыя былі станоўчыя.

### Патрэбная не толькі медыцынская дапамога, але і псіхалагічная

– У бальніцы, канешне, людзі ў паніцы. Здаецца, што разам з дактарам павінны хадзіць псіхолаг, каб супакойваць хворых.

> **Але бачна, што бяда вельмі з'яднала людзей. Усе адзін аднаму дапамагаюць, падтрымліваюць.**

Я за сваё жыццё і ў радзільні ляжала, і з рознымі хваробамі, але такое яднанне людзей бачыла ў першы раз.

Заўважыла, што больш ляжыць сталых, але дастаткова і тых, каму ад 30 да 45. Асабліва цяжка хварэюць людзі, якія, акрамя каронавіруса, маюць іншыя захворванні. У палатах шмат людзей, нікога лішні дзень не трымаюць.

> **Адзначае, што адносіны медыкаў да хворых і ў Чысці, і абедзвюх маладзечанскіх бальніцах былі добрыя:**

– У іх такая адказная і складаная праца. Асабліва хочацца адзначыць **Дар'ю Ількевіч**, **Ігара Салагуба**, **Ірыну Бохан**, **Наталлю Люцко**, **Жанну Горыну**. Ды ўсіх супрацоўнікаў з пульманалагічных аддзяленняў і першай, і другой бальніц. Мы нават твараў іх не бачылі і бэджыкаў. Усё было схаванае пад спецыяльнымі касцюмамі. Усе падаюцца на адзін твар, але дабрыня і клопат адчуваюцца. Санітаркі шмат дапамагаюць сталым людзям.



Фота забяспечанае гераіняй публікацыі.

Ясенія (другая злева) з суседкамі па палаце.

### У бальніцы вучылася дыстанцыйна

З сябрамі і роднымі Ясенія кантактавала па тэлефоне, з дзецьмі бачылася праз вокны. Вельмі ўдзячная за падтрымку сям'і, Украінскай амбасадзе і сябрам з украінскай суполкі «Краяны», якой кіруе апошнія гады. Асабліва падтрымлівалі першы сакратар амбасады Украіны ў Беларусі **Іван Башняк** і колішні старшыня «Краянаў», а цяпер наменснік Ясеніі – **Леанід Лысакабылка**.

– Спачатку ў мяне быў зусім просты тэлефон без вайбера, інтэрнэта. Але мне нічога гэтага і не хацелася – так было дрэнна. Тэлефон з інтэрнэтам спатрэбіўся для таго, каб вучыцца дыстанцыйна. Якраз пачалася сесія ў Расійскім эканамічным універсітэце імя Пляханава, дзе я вучуся завочна. Тэлефон дачка перадала праз медработнікаў. А вось я назад нічога аддаваць не магла, было нельга, – расказвае суразмоўца.

### Месяц не адчувала ні паху, ні смаку

Ясенія вельмі баялася, што могуць захварэць муж і дзеці. Але яны здаровыя. Кажа, адхварэла за ўсю сям'ю. І муж, і дзеці, і яна сама стараліся выконваць усе меры засцярогі: насілі маскі, апрацоўвалі рукі, менш выходзілі на вуліцу. Але Ясенію гэта не ўратавала.

> **Сімптомы, якія адчула адразу, – тэмпература, вельмі моцны кашаль, боль у грудзях, млявасць, страта паху і смаку.**

– У бальніцы кармілі добра. І родныя прыносілі ежу. Я ела толькі таму, што памятала, як гэта смачна. Не адчувала ні смаку ежы, ні паху сваёй любімай кавы з малаком, – прыгадвае Ясенія.

За ўвесь час хваробы на каронавірус Ясенія мае пяць бальнічных. І чарговы павінны працягнуць, бо жанчына адчувае, што пакуль яшчэ працаваць не зможа.

### Расслабляцца няма калі

– Не магу нацешыцца, што я, нарэшце, дома. Адразу, як прыйшла, памылася, прыгатавала ежу для сям'і, вечарам лягла спаць. І так добра спала! – дзеліцца суразмоўца.

Нягледзячы на нядаўнюю хваробу, расслабляцца Ясеніі няма калі. Яна – шматдзетная мама, бабуля, студэнтка-завочніца, салістка суполкі украінцаў «Краяны»:

– Буду заканчваць экзамены, рэпеціраваць. 19 чэрвеня ў Віцебску адбудзецца мой анлайн-канцэрт у падтрымку хворых на каронавірус ва ўсім свеце. Я рада, што мяне ўбачаць у многіх краінах. Родныя, канешне, хвалююцца, але я не баюся. Гэты канцэрт вельмі важны для мяне: даўно мару выступіць на «Славянскім базары». Канцэрт мне дасць такую магчымасць.

> **І хай мой прыклад дае веру ў лепшае тым, хто яшчэ хварэе.**

А яшчэ я абавязкова буду здаваць кроў на антыцелы, каб дапамагчы хворым, – падсумавала суразмоўца.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

Незабудкі ў маладзечанскім парку.

# У маладзечанскім парку захавалі мора незабудак

МАЛАДЗЕЧНА

**Раніцай 3 чэрвеня ў рэдакцыю звярнуліся жыхары Маладзечна і расказалі, што ў парку збіраюцца скасіць незабудкі, якія сёлета ператварылі зямлю парку ў сіні дыван.**

Мясцовыя жыхары адзначылі, што сёлета кветкі распаўсюдзіліся па паўднёва-заходняй частцы – ад драмтэатра ўглыб парку.

– Гэта такая прыгажосць, ніколі столькі незабудак не бачыла, – расказвае маладзечанка **Таццяна Семашкевіч**.

> **– А як убачыла, што скасіць збіраюцца, то аж слёзы навярнуліся.**

Аказваецца, парк падзелены на некалькі зон, за кожную з якіх адказвае пэўная арганізацыя Маладзечна. За тэрыторыі, на якіх цвітуць незабудкі, адказныя аўтапарк №4 і друкарня «Перамога».

> **Мясцовая жыхарка звязалася з дырэктарам аўтапарка Віктарам Руткоўскім і патлумачыла сітуацыю. Кіраўнік звязаўся з адміністрацыяй «Камунальніка», і разам прынялі рашэнне скасіць траву так, каб захаваць кветкі.**

– Падумалі, навошта знішчаць прыгажосць, калі кветкі радуюць вока мясцовых жыхароў, і вырашылі не касіць незабудкі, – расказаў дырэктар аўтапарка.

Таццяна Семашкевіч упэўнілася ў канцы дня, што касцы выканалі распараджэнне і пакінулі кветкі радаваць маладзечанцаў.

Адным з аргументаў за тое, каб скасіць незабудкі, было тое, што ў іх нібыта будуць распаўсюджвацца кляшчы. Мы папрасілі дапамагчы разабрацца з сітуацыяй энтамолага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Святлану Андрушойць**.

Спецыяліст адзначыла, што падчас абследаванняў парку Перамогі ніколі не знаходзіла ў ім кляшчоў. Да таго ж, кляшчы звычайна жывуць у высокіх травах да метра, у сухастоі, таму касіць траву важна.

> **Незабудкі ж не такія высокія, таму іх захаванне наўрад ці стане прычынай распаўсюджання кляшчоў.**

Былы начальнік парку **Аляксандр Фалей** расказаў, што незабудкі ў парку раслі самі па сабе з году ў год. На фотаздымках яшчэ 2013 года ён дэманструе, што кветак нямала, але яны не перажывалі пакосы.

Актывісты ўдзячныя адказным асобам за пазітыўнае вырашэнне пытання. Заклікаюць маладзечанцаў не рваць кветкі, а захаваць, каб яны маглі радаваць усіх жыхароў горада. І сталі навіцца героямі казачных фотасесій, а можа нават новай адметнасцю Горада Сонца.



Тэкст і фота – Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Першыя ластаўкі»



Фота glavred.info.

**«Першыя ластаўкі» – украінскі тэлесерыял пра жыццё школьнікаў. Фільм распавядае аб праблемах, з якімі сутыкаюцца школьнікі і іх асяроддзе ў падлеткавым узросце: сталенне, палавое выспяванне, фарміраванне асобы, здзекі аднагодкаў і думкі пра суіцыд.**

Фільм выклікаў значны грамадскі рэзананс ва Украіне і прыцягнуў увагу сусветнай прэсы.

Прэм'ера першага сезона серыяла адбылася 19 лістапада 2019 года на ўкраінскім Новым канале. А 22 лістапада ў інтэрв'ю аднаму выданню выканаўчы прадзюсар серыяла **Яўген Тунік** паведаміў, што не ведае яшчэ, ці будзе серыял падоўжаны на другі сезон, адзначыўшы: «Гэта рашэнне канала. Калі замовяць – я буду рады працягнуць працу, бо ёсць што расказаць».



## Сюжэт

Падзеі серыяла пачынаюцца 1 верасня. У школу прыходзіць новая вучаніца.

Навучальны год ідзе сваёй чаргой, пакуль адна са школьніц – выдатніца – не здзяйсняе самагубства. Ніхто не ведае, што стала яго прычынай, перадсмяротную запіску не знайшлі. Следчая Вольга Макарава спрабуе высветліць, ці скончыла дзяўчына жыццё самагубствам, ці яе наўмысна скінулі з даху шматпавярховіка.

У ходзе расследавання ёй адкрываюцца шматлікія таямніцы, якія хаваюць вучні, настаўнікі, бацькі і нават яе ўласны сын. Між тым дзеці з розных сем'яў аказваюцца ўблытанымі ў гісторыю са смерцю сваёй аднакласніцы, але нічога не могуць распавесці бацькам. Дзяўчынка падпадкоўвалася ўказанням таямнічага «Сябра», і пад яго ўплыў трапілі і іншыя.

## Водгукі кінакрытыкаў

Пасля выхаду першай серыі першага сезона тэлесерыял атрымаў станоўчыя водгукі ад кінакрытыкаў Украіны.

**Пасля прэм'еры ўсіх васьмі серый першага сезона серыял таксама атрымаў станоўчыя водгукі кінакрытыкаў, але кінаэксперты ўсё ж папракнулі серыял за нізкую якасць гутарковай украінскай мовы.**

У прыватнасці, кіназнаўца **Ярослаў Підгора-Гвяздоўскі** ў каментары выданню «Грамадске» адзначыў, што значная колькасць рэплік серыяла гучала «ненатуральна» з-за няякаснага вымаўлення на ўкраінскай. Кінакрытык выдання «Тэксты» **Кастусь Узвіжанскі** звярнуў увагу, што большасць песень DaKooKa (кампазітар серыяла) выконваюцца на рускай, а ўкраінская мова стужкі гучыць «некалькі штучна і нярадка засмечаная русізмамі».

## Грамадскі рэзананс

Фільм выклікаў ва Украіне значны грамадскі рэзананс, паколькі закранутыя ў ім пытанні моладзевага жыцця (кібербулінг, сэксуальная самаідэнтыфікацыя і суіцыд) раней практычна не абмяркоўваліся публічна.

**Паводле ацэнак, фільм пагледзелі шэсць мільёнаў гледачоў па ТБ і некалькі мільёнаў анлайн.**

У канцы кожнага эпізоду даваліся кантактныя дадзеныя недзяржаўнага цэнтра псіхалагічнай падтрымкі. За першы месяц паказу колькасць званкоў у цэнтр вырасла ў шэсць разоў.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 8 ИЮНЯ

**7.00** «Погода»+ Эрана.
**7.05, 15.25** «Мульт-парад». «Рапунцель».
**7.30, 15.20, 17.40, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ЭБИГЕЙЛ».**
**9.20, 20.00** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ…».**
**10.30** Стрим-спектакль «Сказки из сундука» (Молодечно).
**11.15, 19.50** Гороскоп.
**11.25** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ».**
**13.50, 17.50** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.15** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**15.15, 21.10, 1.05** «Погода» + Эрана.
**15.50** Х/ф **«ИНОСТРАНЕЦ».**
**17.45** «Погода».
**19.15** «Суперлото».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЧЕРНОЕ ЗОЛОТО».**
**23.25** Х/ф **«ИГРА НА ВЫЖИВАНИЕ».**

### ВТОРНИК, 9 ИЮНЯ

**7.00, 15.45, 18.30, 21.10, 0.55** «Погода» + Эрана.
**7.05, 15.50** «Мульт-парад». «Рапунцель».
**7.30, 16.35, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«АЛАДДИН».**
**9.45, 20.00** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ…».**
**10.35** «Гороскоп».
**10.45** Тревел-блог «Мама я уехал».
**11.00** Х/ф **«ФОРСАЖ».**
**13.25, 18.35** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.45** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.15** «Признайся, что вкусно!» Детская кулинарная программа.
**16.40** Х/ф **«КАНДАГАР».**
**18.20** Гороскоп.
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ТАЙНА МУНАКРА».**
**23.00** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЙ ХАЛК».**

### СРЕДА, 10 ИЮНЯ

**7.00, 15.55, 18.30, 21.10, 1.10** «Погода» + Эрана.
**7.10** «Мульт-парад». «Рапунцель».
**7.35, 16.00, 18.25, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.40** Х/ф **«ТАЙНА МУНАКРА».**
**9.25, 20.00** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ…».**
**10.15** «Каменецкая башня» Стрим-экскурсия по музею.
**11.25** Х/ф **«ТРОЙНАЯ ГРАНИЦА».**
**13.30, 18.35** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.55** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.20** Х/ф **«МОГУЧИЕ РЕЙНДЖЕРЫ».**
**20.55** «Вечарніца»6+.
**21.15** Х/ф **«ЖАЖДА СКОРОСТИ».**
**23.25** Х/ф **«ВЕНОМ».**

### ЧЕТВЕРГ, 11 ИЮНЯ

**7.00, 15.50, 21.10, 1.30** «Погода» + Эрана.
**7.05** Мульт-сериал «Рапунцель».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«ВЕНОМ».**
**9.20, 20.00** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ…».**
**10.10** «Признайся, что вкусно!» Детская кулинарная программа.
**11.15** Х/ф **«ЖАЖДА СКОРОСТИ».**
**13.30, 18.30** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.50** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.15** Х/ф **«В ДЖАЗЕ ТОЛЬКО ДЕВУШКИ».**
**18.15** «Фешн is my профешн».
**19.55** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«РЫЦАРЬ ДНЯ».**
**23.15** Х/ф **«НОЧЬ ИДЕТ ЗА НАМИ».**

### ПЯТНИЦА, 12 ИЮНЯ

**7.00, 15.20, 19.00, 21.10** «Погода» + Эрана.
**7.05** Мульт-сериал «Рапунцель».
**7.30, 15.30, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**9.10, 19.05** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ СТАТЬЯ…».**
**10.00** Стрим-спектакль «Кот в сапогах» (Молодечно).
**11.00** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ».**
**12.50, 17.35** Т/с **«БЕЛАЯ РАБЫНЯ».**
**14.20** Т/с **«КАМЕННОЕ СЕРДЦЕ».**
**15.35** «Мульт-парад».
**15.45** Х/ф **«О ЛЮБВИ».**
**17.20** Тревел-блог «Мама я уехал».
**20.55** «Вечарніца»6+.
**21.15** Х/ф **«ФОРСАЖ».**
**23.30** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК ПАУК».**
**1.40** «Погода».

### СУББОТА, 13 ИЮНЯ

**7.00, 15.20, 18.25, 21.15** «Погода» + Эрана.
**7.10** Мультфильмы.
**8.10, 16.45** «Приколы 13-й школы».
**8.15** «Признайся, что вкусно!» Детская кулинарная программа.
**8.35** Х/ф **«ПОХИЩЕННАЯ».**
**10.15** Тревел-блог «Мама я уехал».
**10.30** Х/ф **«ДОРОГА В ПУСТОТУ».**
**15.25** Смотрим всей семьей. «Отпуск в дикой природе».
**16.50** Х/ф **«ИВАН ВАСИЛЬЕВИЧ МЕНЯЕТ ПРОФЕССИЮ».**
**18.30** Х/ф **«ФОРСАЖ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ОХОТА НА ВОРОВ».**
**23.40** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ».**
**1.20** «Погода».

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 14 ИЮНЯ

**7.00, 15.10, 19.10, 21.15** «Погода» + Эрана.
**7.05** «Мульт-парад». «Как приручить дракона».
**8.35, 16.35** «Приколы 13-й школы».
**8.40** Х/ф **«САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ».**
**10.00** Готовь как шеф.
**10.20** Х/ф **«ДОРОГА В ПУСТОТУ».**
**15.15** «Смотрим всей семьей». «Семейка Адамс».
**16.40** «Погода».
**16.45** Х/ф **«УБИЙСТВО У МОРЯ».**
**18.30** Т/с **«КАСЛ».**
**19.15** Х/ф **«АПГРЕЙД».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.20** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК».**
**23.40** Х/ф **«НОЧНЫЕ ИГРЫ».**
**1.20** Гороскоп.

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 8 ИЮНЯ

**6.30** Х/ф **«ХОТТАБЫЧ».**
**7.30** Гость в студии.
**8.25** Х/ф **«100 МИЛЛИОНОВ ЕВРО».**
**10.00** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**11.30** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК 2».**
**13.00** Х/ф **«СИНДБАД. ПИРАТЫ СЕМИ ШТОРМОВ».**
**14.30** Х/ф **«ХОРОШИЙ МАЛЬЧИК».**
**16.00** Х/ф **«ШЕФ».**
**17.40** Новости БЖД.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.20** На вячорки да Фядоркі.
**20.20** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ».**
**22.20** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 9 ИЮНЯ

**6.30, 7.20** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**8.25** Х/ф **«МЭРИ ПОППИНС ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**12.00** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**
**13.50** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**15.40** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА».**
**17.50, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Рядом со звездами.
**20.20** Х/ф **«НОЧНАЯ СМЕНА».**

### СРЕДА, 10 ИЮНЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.20** Рядом со звездой.
**8.20** А знаете ли вы?
**10.00** Х/ф **«КАК Я СТАЛ РУССКИМ».**
**13.00** Х/ф **«ИЛЬЯ МУРОМЕЦ И СОЛОВЕЙ РАЗБОЙНИК».**
**16.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ».**
**19.20** Мая Радзіма.
**19.35** Гость в студии.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 11 ИЮНЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.20** Следопыт.
**7.30** Гость в студии.
**8.20** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**9.50** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**12.15** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА».**
**13.45** Х/ф **«ДЖУНГЛИ ЗОВУТ. В ПОИСКАХ МАРСУПИЛАМИ».**
**16.00** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**
**18.25** Новости БЖД.
**19.20** Волшебная книга МЧС.
**19.30** Протокол.
**20.20** Х/ф **«ГУЛЯЙ, ВАСЯ».**
**22.20** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 12 ИЮНЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.20** Реликвия: сохраненные ценности.
**8.20** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**9.50** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**12.05** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**15.40** Х/ф **«БАБУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».**
**17.30** Новости БЖД.
**19.20** Следопыт.
**20.20** Х/ф **«МОНАШКИ В БЕГАХ».**
**22.20** Мажорный лад.

### СУББОТА, 13 ИЮНЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.20** Протокол.
**7.30** Будьте здоровы.
**8.40** Х/ф **«11 ДРУЗЕЙ ОУШЕНА».**
**10.35** Х/ф **«ГОСТЬ В СТУДИИ».**
**11.55** Х/ф **«ТАКСИ 5».**
**13.25** Х/ф **«СУПЕРМОЗГ».**
**15.50** Х/ф **«БАНДИТКИ».**
**19.30** На вячорки да Фядоркі.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.10** Новости БЖД.
**21.30** Гость в студии.
**22.30** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 14 ИЮНЯ

**6.30** Х/ф **«ТАКСИ».**
**8.00** Х/ф **«СУПЕРМОЗГ».**
**10.00** Х/ф **«АНАЛИЗИРУЙ ЭТО».**
**11.50** Х/ф **«ТАКСИ 2».**
**13.20** Х/ф **«ТАКСИ 3».**
**15.00** Х/ф **«ТАКСИ 4».**
**16.35** Х/ф **«ТАКСИ 5».**
**18.25** Х/ф **«МОНАШКИ В БЕГАХ».**
**19.35** Х/ф **«ВСЁ О МУЖЧИНАХ».**
**21.35** Х/ф **«ПРИВЕТ, БИЛЛ!».**

## Беларусь 1

**6.15, 16.40** Х/ф **«ВЕРИТЬ И ЖДАТЬ».**

**8.15** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.50** Истории спасения.

**10.30** Зона Х. Итоги недели.

**11.10** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«СЧАСТЛИВАЯ СЕРАЯ МЫШЬ».**

**14.25** Кулинарная дипломатия.

**15.15** Твой город.

**15.30** Х/ф **«ОСВОБОЖДЕНИЕ».**

**16.05** Маршрут построен.

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.10** Х/ф **«БЕЗ КОЛЕБАНИЙ».**

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.35** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**9.20, 19.30** Телебарометр.

**9.25** «Подиум». Фэшн-шоу.

**10.20** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.05** «Зов крови». Реалити-шоу.

**12.10** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**13.00** Х/ф **«НЕУЯЗВИМЫЙ».**

**14.45** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.20** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.10** Галактическая сага «Звездные войны: Эпизод I – Атака клонов».

**20.00** «Секретный миллионер». Реалити-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.20** Х/ф **«КОМАТОЗНИКИ».**

**23.15** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.25, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 20.35** Гэты дзень.

**8.25** «Начальнік Чукоткі». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Крапанікі.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Уцёкі». Мастацкі фільм.

**13.45** «Майстры і куміры». Народны артыст Беларусі Арнольд Памазан.

**14.35** «Рыжы, сумленны, закаханы «. Мастацкі фільм СТ.

**17.10** «Славянскі базар у Віцебску-2018». Канцэрт «Рытмы лета».

**18.35** «Сказ пра тое, як цар Пётр арапа жаніў». Мастацкі фільм СТ.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «У бой ідуць адны старыя». Мастацкі фільм СТ.

**22.40** Майстры культуры – ветэранам. Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.45** Х/ф **«СВАДЬБА В МАЛИНОВКЕ».**

**11.25** «Видели видео?».

**13.00** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**14.10** «Три аккорда». Лучшее.

**16.20** Х/ф **«ВОДИТЕЛЬ ДЛЯ ВЕРЫ».**

**18.30** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!».

**20.00** Контуры.

**21.20** «Шансон года».

**23.20** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.40** «Что? Где? Когда?» Летняя серия игр.

## СТВ

**6.30, 23.55** «Живая тема».

**8.10, 11.00** Документальный проект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**12.30, 13.40, 16.40** Т/с **«АГЕНТ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**20.35** Документальный спецпроект.

**22.15** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «Беларусь сегодня».

**6.30** «Еще дешевле».

**7.00, 7.50** Мультфильмы.

**7.20** «Играй, дутар!».

**8.50** «Наше кино. История большой любви». Неуловимые мстители.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10** Х/ф **«НЕУЛОВИМЫЕ МСТИТЕЛИ».**

**11.50** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ НЕУЛОВИМЫХ».**

**13.35, 16.15** Х/ф **«КОРОНА РОССИЙСКОЙ ИМПЕРИИ».**

**16.40, 19.30, 1.00** Т/с **«ЗАПИСКИ ЭКСПЕДИТОРА ТАЙНОЙ КАНЦЕЛЯРИИ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**2.20** Т/с **«ЗАПИСКИ ЭКСПЕДИТОРА ТАЙНОЙ КАНЦЕЛЯРИИ-2».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.50** «Истории ремонта».

**7.25** «Дача».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**10.55** «Чудо техники».

**11.45** «Дачный ответ».

**12.45** «НашПотребНадзор».

**13.40** Истории спасения.

**14.10** Х/ф **«ДЕД МАЗАЕВ И ЗАЙЦЕВЫ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.10** Ты не поверишь!

**21.15** «Звезды сошлись».

**22.40** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.10** Х/ф **«КРЕМЕНЬ. ОСВОБОЖДЕНИЕ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ШОУ ПРО ЛЮБОВЬ».**

**10.20** «Устами младенца».

**11.00** ВЕСТИ.

**11.15** Х/ф **«ЧУЖАЯ ЖЕНЩИНА».**

**14.40** КОНЦЕРТ НОМЕР ОДИН. Денис Мацуев, «Синяя Птица» и друзья в Кремлевском дворце.

**16.10** Х/ф **«ХОЧУ ЗАМУЖ».**

**17.55, 21.45** Х/ф **«ПРЕКРАСНЫЕ СОЗДАНИЯ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.15** «В людях».

**22.50** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.30** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.05** Вспомнить всё. **8.20** Талантливый мистер Рипли. **10.50** Знакомьтесь, Джо Блэк. **14.00** Обливион. **16.10** Район №9. **20.10** Дюплекс. **21.45** Охотник за головами. **23.45** Линкольн для адвоката. **1.45** Дыши ради нас. **3.50** Последний киногерой.

### TV1000 ACTION

**7.25** Игра Эндера. **9.30** Элизиум: Рай не на Земле. **11.25** Другой мир. **13.25** Другой мир 2: Эволюция. **15.15, 0.50** Другой мир: Восстание ликанов. **16.45, 2.15** Другой мир: Пробуждение. **18.10** Омерзительная восьмёрка. **21.10** Город грехов 2: Женщина, ради которой стоит убивать. **22.55** Прогулка среди могил. **3.40** Кровный отец. **5.10** Соломон Кейн.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.10** Барханов и его телохранитель. **8.30** Фото на память. **9.50** Кандагар. **11.45** Водитель для Веры. **13.45** Дикая Лига. **15.45** Пятница. **17.15** Статус: свободен. **19.00** Любовь в большом городе. **20.30** Любовь в большом городе 2. **22.05** Любовь в большом городе 3. **23.30** Ворошиловский стрелок. **1.30** Француз. **3.55** Час пик. **5.45** Робо.

### ТВ3

**6.00, 8.45** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **10.15** «Комаровский против коронавируса». **10.30** «Мама Russia». **11.30** Х/ф **«ПОСЛЕДНИЕ ДНИ НА МАРСЕ». 13.30** Х/ф **«БЕГУЩИЙ ПО ЛЕЗВИЮ 2049». 16.30** Х/ф **«ХРОНИКИ РИДДИКА». 19.00** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВРАТА». 21.15** Х/ф **«СВЕРХНОВАЯ». 23.00** Х/ф **«КРИКУНЫ». 1.15** Т/с **«СЕКРЕТНЫЕ МАТЕРИАЛЫ. ПЕРЕЗАГРУЗКА». 2.00, 2.30, 3.00, 3.30, 3.45, 4.15, 4.45, 5.00, 5.30** «Городские легенды».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ДВЕ СУДЬБЫ». 13.00, 21.00** Т/с **«ОПЕРАЦИЯ ГОРГОНА». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ОСТРОВ НЕНУЖНЫХ ЛЮДЕЙ». 15.00, 23.00** Т/с **«ГОСПОДА-ТОВАРИЩИ. МАНЬЯК». 5.00** Т/с **«БЕЗ ПРАВА НА ОШИБКУ». 7.00** Т/с **«ГОСПОДА-ТОВАРИЩИ. ЧЕРНЫЙ ЧЕЛОВЕК».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ – ЭТО ДЛЯ ДВОИХ». 2.20** Х/ф **«СЕРДЦЕЕД». 4.15** Х/ф **«ДЕНЬ ДУРАКА». 5.55** Х/ф **«ЗАЧЕТНЫЙ ПРЕПОД 3». 8.15** Х/ф **«ВЕЗУЧИЙ СЛУЧАЙ». 10.05** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ». 11.50** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА». 13.50** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ». 15.50** Х/ф **«СМЕРТЬ НА ПОХОРОНАХ». 17.35** Х/ф **«СВОДНЫЕ БРАТЬЯ». 19.30** Х/ф **«БОЛЬШОЙ ПАПА». 21.10** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ 2». 23.05** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 0.55, 1.55, 2.45, 3.45, 4.40, 5.40** Т/с **«ВСПОМНИТЬ ВСЁ». 6.40, 7.40, 8.45, 9.45, 10.50, 11.50, 12.55, 13.55** Т/с **«ПАУК». 15.00, 16.00, 17.05, 18.05, 19.05, 20.10, 21.10, 22.10** Т/с **«ШАКАЛ». 23.15** Т/с **«ДИЛЕТАНТ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.30, 9.05, 10.25, 11.55, 12.50, 13.50, 15.40, 17.55, 19.30, 20.55, 23.35** Погодка. **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.10** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.30** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.55** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.30, 3.05** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.55, 3.35** Шоу «РОГОВ ДОМА». **13.55** Х/ф **«ГОЛАЯ ПРАВДА». 15.45** Х/ф **«ПЛАН ПОБЕГА». 18.00** Х/ф **«МОНСТРЫ НА КАНИКУЛАХ 2». 19.35, 1.45** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.00** Фильм-катастрофа «ЭКИПАЖ». **23.40** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **0.25** Скетч-шоу «НЕРЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ». **4.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **5.15** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Азбука спорта. **7.10, 9.40** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 13-й тур. **9.10** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **11.40** Пит-стоп. **12.10** Чемпионат мира по водным видам спорта. **14.50** Игры «на вырост». **15.20** Превью. Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 13-й тур. **15.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 13-й тур. РЦОР-БГУ (Минск) – Белшина (Бобруйск). **17.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 13-й тур. Рух (Брест) – ФК Витебск. **19.50** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 13-й тур. БАТЭ (Борисов) – Шахтер (Солигорск). **22.00** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **22.45** Итоги недели. **23.30** Тренировочный день.

### EUROSPORT

**0.30, 7.30** Автогонки. «24 часа Ле-Мана»-2019. **2.30** Снукер. The Players Championship-2020. Финал. **4.00** Теннис. Australian Open-2019. Мужчины. Четвёртый круг. Федерер – Циципас. **5.30** Теннис. Australian Open-2020. Мужчины. Четвёртый круг. Надаль – Кирьос. **9.30, 19.00** Велоспорт. Amstel Gold Race-2019. **10.30** Велоспорт. Классика Сан-Себастьяна-2019. **11.30** Велоспорт. Чемпионат Европы-2019. Алкмар. Мужчины. **12.30, 23.00** Футбол. Гейминг. Solidarity Challenge. **13.30, 14.00** Автогонки. Гейминг. Ле-Ман. **16.15, 22.00** Автогонки. Гейминг. WTCR. **17.15** Авто- и мотоспорт. Год рекордов. **18.00** Велоспорт. Флеш Брабансонн-2019. **20.30** Велоспорт. Тур Британии-2019. 4-й этап. **21.15** Велоспорт. Тур Британии-2019. 8-й этап.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Школа внедорожного вождения. **6.15, 17.40** Обновление. **6.25, 7.40, 16.20** Поездка выходного дня. **6.50, 8.10, 16.50, 18.35** Металлоломщики. **9.00, 14.30** Сити тестер. **9.30** Резьба по стали. **10.00** Тест с дядей Ваней. **10.20** Мотогараж. **10.55, 14.10** Мото тест-драйв. **11.10, 19.25, 22.45, 3.25** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **11.45, 20.10, 23.35, 4.05** Трасса А2. **12.30, 0.20** Хорошо забытое. **12.50, 0.40** Испытание на прочность. **13.20** Вторичка. **13.40, 1.05** Тест на «Драйве». Эксклюзив. **15.05, 21.00, 4.50** Тест в большом городе. **15.35** Байки про байки. **17.50, 1.35** В поисках мотоприключений. **18.25** Наезд! **19.55, 23.15, 3.50** Авто: вторые руки. **21.40, 2.30, 5.20** Вечер с Пикуленко. **22.25, 3.10** Дома на колесах. **2.05** Сравнительный тест.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.50, 8.40** Речные чудовища. **9.35** Невероятная рыбалка. **10.25** Масштабные инженерные ошибки. **11.10** Демонтаж самолетов. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.05, 15.50, 16.35, 17.25, 18.10, 18.55, 19.40, 20.30, 21.15, 22.00, 22.45, 23.35, 0.20** Австралийские золотоискатели. **1.05, 1.55** Австралийские охотники на лобстеров. **2.40, 3.30** Ковбои ледяных вод. **4.20, 5.10** Адские грузовики.

### HISTORY

**6.10** Родовые проклятья. **6.35, 7.00, 5.00, 5.25** Невероятные изобретения. **7.25, 8.10, 8.55** Музейные тайны. **9.40, 10.30** Мифические существа. **11.20** Невидимые города Италии. **12.15, 13.15, 14.15** Древние небеса. **15.15, 16.15** Иудея и Рим: фатальный конфликт. **17.15** Юлий Цезарь без прикрас. **18.20, 19.10** Военные заводы. **20.00** Тридцатилетняя война – Железный век. **21.00** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **21.50** Древние суперстроения. **22.50, 23.40** Карты убийства. **0.25, 1.15** Загадки Египта. **2.00, 2.45, 3.30, 4.15** Запретная история.

### NATURE

**6.10** Невероятные животные. **7.05** Мир природы – крылатые охотники на обезьян. **8.00, 8.50** 24 часа на Земле. **9.45, 10.35, 11.30** Тайная жизнь слонов. **12.25, 13.15, 14.10** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **15.00, 18.30** Загадочная планета. **15.50** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **16.45** Эпический Йеллоустоун. **17.35** Огромные звери: последние из великанов. **19.20, 20.15** Бескрайняя Африка. **21.05** Суровая Австралия. **21.55** Невероятные встречи с животными. **22.45, 2.00, 4.55** Мутации погоды. **23.30, 23.55** Природа в кадре. **0.20** Жуткие, настоящие и странные. **1.10** Хищные питомцы. **2.50** Ветеринар из Йоркшира. **3.35, 4.00, 4.30** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.25, 6.50, 5.35** Научные глупости. **7.15, 8.05, 8.50** Непокорный остров. **9.35, 10.20, 4.45** Авто-SOS. **11.10, 11.55** Самые лучшие суперкары. **12.40, 13.25, 14.10** Космос: возможные миры. **14.55, 15.40, 16.25** Расследования авиакатастроф. **17.15** Расследование авиакатастроф. **18.00** Служба безопасности аэропорта: Колумбия. **18.45, 19.30** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **20.15, 21.00, 21.45** Поймать контрабандиста. **22.30, 23.20** Служба безопасности аэропорта: Бразилия и Перу. **0.00, 0.25** Горячие границы: Латинская Америка. **0.50** Инстинкт выживания. **2.20, 3.10, 4.00** Неизвестная планета Земля.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55** Горная охота на охотского снежного барана. **7.20, 15.25, 23.35** Вкусные рецепты рыболова. **7.55, 11.50, 0.05, 4.05** Давай зарубимся! **8.10, 0.20, 4.20** Охоты и охотники. **8.25, 12.25, 0.35, 4.35** Рыбалка 360. **8.55** Рыболовная Россия. **9.25, 13.25, 17.25, 21.35** Рыбалка в России. **10.50, 14.55, 18.55** Мир рыболова. **11.20, 19.30, 3.40** Вкусные рецепты охотника. **12.10** Популярная охота. **12.55, 17.00, 5.05** Охота в Удмуртии. **15.55, 20.00** Андрей Старков и его команда. **16.25, 20.30** Рыбалка на малых реках Удмуртии. **21.00** На рыбалку с охотой. **23.00** Горная охота на колымского снежного барана. **1.05** Такая жизнь охота с Сергеем Бешенцевым. **1.35, 5.35** Фотоохота с Евгением Полонским. **2.55** Охотничьи традиции и этика. **3.10** Горная охота на корякского и чукотского снежного барана.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 14.05, 18.05, 22.15, 2.25** Профотбор. **6.30, 10.25, 14.35, 18.35, 22.45, 2.55** Дачных дел мастер. **7.00, 11.00, 15.05, 19.05, 23.20, 3.25** Старинные русские усадьбы. **7.30, 11.45, 23.50** Безопасность. **8.00, 12.15, 16.20, 20.10, 0.20, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 0.35** Доктор смузи. **8.35, 12.50, 16.45, 20.40, 0.55, 4.50** Сам себе дизайнер. **8.50, 13.05, 17.05, 21.00, 1.10, 5.05** У мангала. **9.20** Дачные радости с Мариной Рыкалиной. **11.30** Наш румяный каравай. **13.35, 17.35, 21.30, 1.40, 5.30** История одной культуры. **15.30** Кашеварим. **15.50, 19.35, 3.50** Новые Робинзоны. **16.30, 20.25, 4.35** Сладкая жизнь. **22.00** Самогон. **2.10** С пылу с жару.

# «Бачу імя Фларыян Жураўскі і разумею – гэта мой дзядуля»

## Віляйчанка расказала, як у спісе, надрукаваным у «РГ», знайшла свайго дзеда

**У спісе «вераснёвых смертнікаў» Францішка Жылкі, надрукаваным у №19 «Рэгіянальнай газеты», некаторыя нашы чытачы знаходзяць сваякоў, пра якіх нічога не ведалі ад пачатку Другой сусветнай. Сёння мы раскажам гісторыю віляйчанкі Марыі Кузаўкінай, якая ў спісе знайшла свайго дзеда Фларыяна Жураўскага.**

ВІЛЕЙКА

### Цалаваў маленькую дачку і частаваў яе цукеркамі

– У мяне на вайне загінуў дзед, **Фларыян Жураўскі**. Мы дакладна нават не ведалі, калі: на пачатку Другой сусветнай ці пасля 1941. Дзед з бабуляй жылі ў вёсцы Дзямідкі на Вілейшчыне. Апошні раз мама, якая нарадзілася ў 1934 годзе, бачыла яго ў маі 1939 года.

> **Запомніла, як ля вялікай елкі ў Дзямідках яна са сваёй маці, маёй бабуляй Апулёніяй, праводзілі мужа і бацьку ў Войска Польскае. Гэта елка стаіць і цяпер.**

Некалі ля яе была невялікая каплічка. Адтуль усе жанчыны вёскі праводзілі сваіх мужоў у войска. Фларыян Жураўскі тады цалаваў маленькую дачку і даваў ёй цукеркі, – расказвае Марыя Рамуальдаўна тое, што чула ад мамы.

Па словах суразмоўцы, пахавальную на Фларыяна Жураўскага родныя атрымалі толькі ў 1944 ці 1945 годзе. Пасля папера некуды знікла. Атрымаўшы «пахаванку» ў канцы вайны, сям'я меркавала, што, можа, Фларыян трапіў у палон або перайшоў з Войска Польскага ў савецкую армію.

– Пісалі ў архівы, спрабавалі знайсці нейкіх сведак. Мама вельмі хацела ведаць, дзе пахаваны бацька. А яшчэ больш хацела бабуля, – расказвае спадарыня Марыя гісторыю пошуку.

### Як жылі Жураўскія да 1939 года

Сама бабуля была з вялікай сялянскай сям'і, з недалёкай ад Дзямідак вёскі Станькі. Яе пазнаёмілі з Фларыянам і выдалі замуж. Па ўспамінах бабулі, яна пражыла з Фларыянам шэсць шчаслівых гадоў. Да войска дзед працаваў кавалём, меў сваю кузню.

– Я нават памятаю тое месца, дзе стаяла кузня. Наша хата была крайняй у вёсцы. На тым месцы пасля сеялі жыта. Там расцвіталі вішні. Дрэвы былі пасаджаныя па перыметры. Я некалі спытала ў бабулі, чаму так. Яна адказала, што гэта месца, дзе да 1939 года стаяла кузня дзядулі, – расказвае суразмоўца.

Дзед, маючы прафесію каваля, быў паважаным чалавекам у вёсцы. А бабуля хоць і паходзіла з вялікай сям'і, атрымала добры пасаг – сто рублёў золатам. За іх купіла ў вёсцы манапольку – невялічкую краму, дзе прадаваліся алей, селядцы, запалкі, іншыя рэчы і прадукты, неабходныя ў вёсцы.

> **Жылі дзядуля з бабуляй нядрэнна – мелі грошы, некалькі валок зямлі і кавалак лесу.**


Фота з архіва Марыі КУЗАЎКІНАЙ.

**Фларыян Жураўскі (злева) перад войскам. Прыкладна 1939 год.**

### Бабуля спазнала ўдовін лёс

– Шчасце сям'і скончылася ў маі 1939, – працягвае Марыя Рамуальдаўна. – Пасля пачалося нялёгкае жыццё маёй бабулі. Свёкар быў суровы чалавек. Як не стала сына, то ўжо і нявестка была непатрэбная. Пабудаваў для бабулі маленькую хатку і адсяліў яе з дачкой туды. Бабуля цалкам спазнала ўдовін лёс. Замуж больш не выйшла. Неаднойчы прыгадвала, што магла б, бо кавалеры сваталіся. Але такога, як яе Флёрка, не было. Так бабуля і пражыла ўсё жыццё. Вывучыла маму за швачку, адправіўшы яе да больш вядомай швачкі. Пасля мама абшывала ўсю вёску. Канешне, бралі невялікія грошы – 30 рублёў за спадніцу. Але і гэта быў нейкі хлеб. Мама і бабуля памерлі, так і не даведаўшыся нічога пра Фларыяна.

### Дакранулася да кожнага прозвішча ў спісе

Спадарыня Марыя прызнаецца: не пакідала прадчуванне, што яна ўсё ж завершыць гэту сямейную справу да канца – даведаецца, дзе і як загінуў дзядуля.

> **Выпадкова ў адной з сацсетак Марыя Рамуальдаўна знайшла пост пра «вераснёвых смертнікаў». Зацікавілася. У бібліятэцы Вілейскага дзяржаўнага каледжа, дзе цяпер працуе, знайшла газету з гэтым артыкулам.**

– Дрыжачымі рукамі разгарнула газету, дакранулася да кожнага прозвішча.

> **І гляджу, у самым канцы спіса – Жураўскі Фларыян. І разумею, што гэта – мой дзед. Не магу нават апісаць словамі, што я адчувала ў той дзень.**

Былі і слёзы, і хваляванне, і крыўда ад таго, што не дажыла да гэтага часу бабуля. Думалася: вось, каб яе на тую магілку адвесці. Збылася ўся яе жыццёвыя надзея: хай не пабачыцца з мужам, але хоць памацаць гэту магілку і паплакаць на ёй, – дзеліцца Марыя Рамуальдаўна.

Кажа, цяпер самае вялікае яе жаданне – паехаць з братам, сястрой і дзецьмі ў Польшчу на вайсковыя могілкі ў польскі горад Пётркаў-Трыбунальскі, праз дзесяцігоддзі пакланіцца магіле свайго дзядулі і паплакаць на ёй.

«Вераснёвыя смертнікі» – жаўнеры 86-га Маладзечанскага пяхотнага палка ў Гелянове, якія ў верасні 1939 года стрымлівалі немцаў на подступах да Варшавы. Яны першымі прынялі ўдар Германіі ў Другой сусветнай. 250 вайскоўцаў гэтага палка, што загінулі ў верасні 1939 года, пахаваныя ў Польшчы, у горадзе Пётркаве-Трыбунальскім.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

● КАЛЯНДАР

**5 ЧЭРВЕНЯ**

**1937.** Нарадзіўся скульптар і архітэктар **Валянцін Занковіч**. Адзін з аўтараў мемарыяльнага комплексу «Хатынь». Бацька скульптара нарадзіўся на Вілейшчыне.

**1942.** У Ракаве нарадзіўся **Вячаслаў Рагойша**, беларускі філолаг і літаратуразнаўца, прафесар.



**6 ЧЭРВЕНЯ**

**1941.** Нарадзілася **Эліза Ажэшка**, польская пісьменніца беларускага паходжання. У сваіх творах шырока выкарыстоўвала гродзенскія гаворкі, беларускія фразеалагізмы. Прызнаная класікам польскай літаратуры. Пахаваная ў Гродне, дзе пражыла большую частку свайго жыцця.



**1950.** Нарадзіўся **Аляксей Дудараў**, беларускі пісьменнік і драматург.

**1959.** У Маладзечне пачала вытворчую дзейнасць паштовая скрыня №26 (пазней радыёзавод «Спадарожнік»). У цяперашні час не існуе.

**7 ЧЭРВЕНЯ**

**1927.** У Варшаве **Барыс Каверда**, супрацоўнік віленскай газеты «Беларускае слова», забіў савецкага пасла **Пятра Войкава**.

**8 ЧЭРВЕНЯ**

**1942.** У лесе каля Івянца нямецкія нацысты расстралялі 800 яўрэяў. У тым ліку 600 дзяцей. Перад Другой сусветнай у мястэчку жыло каля 2000 яўрэяў. На месцы трагедыі ўсталяваны мемарыяльны знак.

**9 ЧЭРВЕНЯ**

**1849.** У в. Каловічы ля Вілейкі нарадзіўся **Іван Кандрацьеў**, рускі пісьменнік, паэт-песеннік. Аўтар слоў песень «По диким степям Забайкалья», «Очаровательные глазки» і інш.

**11 ЧЭРВЕНЯ**

**1923.** Выйшла ў свет паэма Якуба Коласа «Новая зямля».

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «Маладзечна да

## Людміла Карпенка – пра

**6-7 чэрвеня па традыцыі мог бы адбыцца фестываль «Маладзечна-2020» . Памятаеце, хто яго стварыў? Дзякуючы каму ў Маладзечне амаль няма вуліц з савецкімі назвамі, але ёсць помнік «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі»? Хто ў канцы 1980 – пачатку 1990 паспяхова развіваў і ЗПМ, і маладзечанскі футбол?**

МАЛАДЗЕЧНА

Пра былога дырэктара ЗПМ, старшыню Маладзечанскага гарвыканкама, палітыка, навукоўца, мужа і бацьку пагутарылі з жонкай **Генадзя Карпенкі, Людмілай**. Пасля смерці мужа яна разам з дзецьмі вымушаная была з'ехаць у Германію. Ад пачатку 2000-х жыве ў Франкфурце-на-Майне.

**– Спадарыня Людміла, раскажыце, чым жывяце сёння?**

– Маё жыццё нічым не вызначаецца. Жыву ў адным з мікраараёнаў Франкфурта. У гэтым жа горадзе жыве дачка **Таццяна** са сваёй дачкой **Насцяй**. Дапамагаю ім па гаспадарцы. А яны мне дапамагаюць разабрацца з дакументамі ў нямецкай бюракратычнай сістэме. У Кёльне жыве сын **Аляксандр** з жонкай і дваімі дзецьмі. Яшчэ адна мая ўнучка, **Ганна**, – дачка Сашы ад першага шлюбу – жыве ў Мінску. Аня – фізік. Працягвае дынастыю дзядулі і бацькі. Цяпер у мяне два жыцці – адно ў Беларусі, дзе нарадзілася, вучылася, сустрэла і страціла каханне. А другое – у Германіі, дзе жыву цяпер я, дзеці і ўнукі.

**– А давайце пра каханне. Як вы пазнаёміліся з Генадзем?**

– Падлеткам, калі жыла ў Нясвіжы, з сяброўкамі марылі, якім у кожнай будзе муж. Я сказала, што мой будзе разумны, прыстойны і абавязкова мець салідное становішча.

А пазнаёміліся студэнтамі. Я паступіла ў тагачасны наргас. Была вясёлай, кампанейскай, прыгожа апраналася. Па часопісе «Бурда» з мамінага паліто пашыла сабе модныя штаны. Да 20 гадоў мела чатыры прапановы выйсці замуж. Але чакала сапраўднае каханне.

Неяк стаяла ў чарзе за білетамі ў кіно. Да мяне падышлі два хлопцы. Гэта быў Генадзь з сябрам. Пазнаёміліся. Але месцы ў зале былі не побач, пасля кіно разбегліся. Потым зноў сустрэліся выпадкова. Будучы муж прызначыў спатканне. Я не пагаджалася. Але ўрэшце сказала, што можа сустрэць мяне ў новым навучальным годзе 1 верасня каля інстытута. На тым і разышліся. Прайшлі летнія канікулы. І вось 1 верасня я выходжу з інстытута і... бачу высокага хлопца з кветкамі. Так пачалі сустракацца.

**– Прапанову рукі і сэрца памятаеце?**

– Аднойчы пасварыліся на некалькі месяцаў. А потым Генадзь зноў прыйшоў з кветкамі да інстытута. І мы адразу падалі заяву. На роспіс пайшлі я, Гена і яго аднакурснік. Жылі з бацькамі і братам Генадзя ў Мінску – пяць чалавек у аднапакаёўцы.

**– Раскажыце пра сям'ю мужа.**

– Маці – **Вера Розум** – родам са Смалявіч. У 14 год адчула, як гэта быць дачкой ворага народа. Яе бацьку, простага будаўніка, улады асудзілі на дзесяць год. Вайной была ў канцлагеры ў Германіі. Бацька, **Дзмітры Карпенка**, з Ленінграда, з сям'і дыпламатаў. Вельмі адукаваны і інтэлігентны.

**– А што пра сваё дзяцінства муж вам расказваў?**

– Дзяцінства прайшло ў рабочым раёне Мінска. Бацька працаваў на велазаводзе, а маці была гаспадыняй. Жылі сціпла. Маці брала замовы і шыла.

Да пятага класа Гена быў выдатнікам. Толькі паводзіны – не вельмі. Ад раніцы да вечара хлопцы гулялі на капейкі, лазілі за цукеркамі на фабрыку «Камунарка», біліся «вуліца на вуліцу», ганялі ў футбол. З-за хуліганства сына бацькоў выклікалі ў школу. У бацькі быў свой метад выхавання – ён выстрыгаў валасы на галаве сына пасярэдзіне – пад Леніна. Казаў: «Раз ты такі разумны, дык і насі прычоску, як у Леніна. Ён таксама быў разумны». Пасля школы Генадзь з другой спробы паступіў у Беларускі політэхнічны інстытут (цяпер БНТУ).

**– Раскажыце, як Генадзь Дзмітрыевіч прыйшоў у навуку.**

– На чацвертым курсе ўзначальваў навукова-тэхнічнае студэнцкае таварыства на факультэце. Даследаваў каразійную трываласць пакрыццяў. Яго даследчую працу прызналі лепшай студэнцкай працай у Беларусі і адзначылі дыпломам Міністэрства народнай адукацыі. Маладога спецыяліста размеркавалі ў інстытут ядзернай энергетыкі Акадэміі навук.

**– Напэўна, ваш муж быў мэтанакіраваным чалавекам?**

– Яшчэ якім. У яго ў папцы ляжаў графік – дрэва дасягненняў па гадах. І ўсё выконвалася. У 32 гады – кандыдат тэхнавук. У 39 – дацэнт на кафедры фізікі цвёрдага цела. У 41 – доктар тэхнавук. У 44 – лаўрэат Дзяржпрэміі. У 45 – член-карэспандэнт АН Беларусі. Вяршыня дрэва – прэзідэнт Акадэміі навук. І гэта здзейснілася б, калі б не палітыка.

26-гадовага вучонага-ядзершчыка Генадзя прызначылі кіраўніком групы для правядзення выпрабаванняў ядзернага гаручага на рэактары «Марыя» ў Польшчы.

**– Пачаліся частыя замежныя камандзіроўкі?**

– Так. Але муж заў-

# «…апошняга было любоўю Генадзя»

## …мужа, навукоўца, палітыка, былога дырэктара ЗПМ

…сёды прыязджаў з падарункамі. Таксама прывозіў лісты, напісаныя мне ў дні расстання.

**– На выхаванне дзяцей у бацькі часу хапала?**

– Да дзяцей ставіўся з вар'яцкай любоўю. Не хадзіў на бацькоўскія сходы, але быў у курсе іх паспяховасці. Заходзіў у настаўніцкую, быў знаёмы з настаўнікамі.

**– Бацька караў дзяцей, калі не слухаліся?**

– Часцей я. Калі дзеці пасталелі, заўвагі рабіў жартам, але яны выдатна яго разумелі. Не апекаваў іх, казаў: «Я ўсяго ў жыцці дасягнуў сам, і вы давайце самастойна».

**– Як Маладзечна з'явілася ў вашым жыцці?**

– У 1987 годзе Генадзь аб'явіў, што з'язджае працаваць у Маладзечна. Успрыняла гэта ў штыкі. Як? Мы застаёмся адны: я, дзеці і хворая мама. Але ён быў цвёрды. З'ехаў. Дадому прыязджаў раз на тры-чатыры дні.

**– А вы з дзецьмі ездзілі да мужа ў Маладзечна?**

– Часам ездзілі. Але там мы былі самі па сабе. Генадзь прыходзіў на завод першым і сыходзіў, мабыць, апошнім. Мы, праседзеўшы ў кватэрцы або пахадзіўшы ў ваколіцах завода, вярталіся ў Мінск.



Фота забяспечанае Людмілай КАРПЕНКАЙ.

З жонкай Людмілай пасля працоўнага дня.

**– Значыць, на ЗПМ Генадзь Дзмітрыевіч сам захацеў?**

– Так. Ён тады быў начальнікам аддзела ў інстытуце парашковай металургіі ў Мінску. Там увесь час казалі аб праблемным заводзе. Здымалі дырэктара за дырэктарам, завод не выконваў план. Вось Гена і падумаў: няўжо там усё так безнадзейна? І сам сказаў, што хоча кіраваць заводам. Кіраўніцтва было не супраць. Сказалі: прымай завод. Але супраць чужынца выступілі ў Маладзечанскім гаркаме партыі і ў абкаме.

Тады Генадзя прадставілі рабочым завода і прапанавалі самім вырашаць: ці патрэбны ім такі кіраўнік. Усё ж перабудова пачыналася. Рабочыя слухалі яго, задавалі няпростыя пытанні. І паверылі Генадзю. Так у 37 гадоў ён узначаліў завод.

**– Як муж прыгадваў гэты досвед?**

– Лічыў, што на ЗПМ ён дабіўся першых сапраўдных вынікаў у жыцці. Прыйшоў на прадпрыемства з нізкім тэхузроўнем, неэканамічнымі падыходамі. Даведаўся, што на ЗПМ было шмат найноўшага абсталявання. Яго закупілі, але не выкарыстоўвалі. З памочнікамі зрабіў усё, каб абсталяванне запрацавала. Сталі выпускаць вырабы, якія прыносілі выгаду. Забаранілі выпуск эканамічна неэфектыўнай прадукцыі. Заробак начальнікаў прывязалі да заробку рабочых.

**– Ці хапала дырэктару завода часу на любімы футбол?**

– Канешне. Работнікі ганарыліся футбольнай камандай «Металург», якую трэніраваў футбаліст, былы гулец зборнай СССР і мінскага «Дынама» **Сяргей Бароўскі**.

Тады ж у 1980-я Генадзь наладзіў партнёрскія сувязі з нямецкім горадам Эслінгенам.

**– Калі ж Генадзь Карпенка стаў палітыкам?**

– 4 сакавіка 1990 года былі выбары народных дэпутатаў Беларускай ССР і народных дэпутатаў мясцовых Саветаў. У маладзечанскай Купалаўскай выбарчай акрузе фаварытам быў дырэктар ЗПМ. На першым туры галасавання яго абралі дэпутатам Вярхоўнага і гарадскога Саветаў. Рабочыя давяралі яму.

Першы Вярхоўны Савет 12-га склікання прывёў у палітыку нямала светлых асоб, патрыётаў, разумных і сумленных людзей. Сярод іх быў і Генадзь. Яго заўважылі ў Авальнай зале Дома ўрада, абралі членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета, старшынёй пастаяннай камісіі па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе.

**– І ўсё ж у Маладзечна ён вярнуўся.**

– Так. У 1991 годзе прыехала дэлегацыя з Маладзечна з просьбай стаць старшынёй гарвыканкама. Генадзь пагадзіўся, пакінуў высокія пасады і ўзначаліў горад на чатыры гады.

Пра Маладзечна падчас яго кіравання загаварылі, як пра Горад Сонца. Па насычанасці і ўзроўні жыцця горад пачынаў пераўзыходзіць сталіцу.

Калегі па гарвыканкаме прыгадвалі, што за 1992 год з маладзечанскіх прадпрыемстваў звольнілі каля дзесяці тысяч чалавек. А старшыня гарвыканкама адкрыў шлюзы для свабоднага прадпрымальніцтва. Стварылі каля тысячы розных малых прадпрыемстваў, на якія і ўладкаваліся практычна ўсе звольненыя работнікі. У горад прыйшлі флагманы эканомікі. Тут прысутнічалі 16 банкаў, ладзілі ўнікальныя культурныя праграмы, развівалі спорт. Узвялі гарадскі стадыён, футбольны клуб грымеў на ўсю краіну.

У кіраванні Карпенка рабіў стаўку на маладых і таленавітых. А яшчэ пры ім у гарвыканкаме працавалі прадстаўнікі розных палітычных сіл: камуністы, сацыял-дэмакраты, БНФ. Але палітычныя погляды не адбіваліся на выніках працы.

**– Зноў сталі рэдка бачыцца. Так?**

– Так. Генадзь жыў у кватэры ў Маладзечне. Ён у адным пакоі, у другім – **Віктар Ганчар**, якога Генадзь запрасіў на пасаду першага намесніка.

**– Першы фестываль беларускай песні і паэзіі памятаеце?**

– Канешне. 1993 год. Канцэрты – на стадыёне, замест грымёрак – распранальні спартсменаў. Цяжкасці арганізацыі – на плячах Генадзя. Ён далучыў да свята **Міхаіла Фінберга**. Мэтай фэсту было далучэнне да беларускай музыкі, паэзіі, мовы, папулярызацыя сучасных творцаў, пошук таленавітых выканаўцаў, пашырэнне творчых кантактаў. Генадзь падумаў аб прызах пераможцам не з казны горада, а за кошт ахвяраванняў бізнесменаў. Пераможцай конкурсу маладых выканаўцаў у 1993 годзе стала **Алена Саўленайтэ**. Яна атрымала ВАЗ-2109.

А яшчэ ў 1993 годзе па ініцыятыве старшыні правялі баль для медалістаў Маладзечна. Для кожнага прадугледзелі прэмію ў 10 тысяч рублёў, як і для іх класных кіраўнікоў і дырэктараў. Каб было зразумела, што гэта за грошы, скажу: мой заробак быў 70 тысяч рублёў. На баль прыехалі зоркі эстрады.

**– Чаму Генадзь Дзмітрыевіч сышоў з пасады?**

– Выканаў абяцанне, дадзенае маладзечанцам. А Лукашэнка пашырыў паўнамоцтвы, змяніўшы Канстытуцыю. Прызначэнне кіраўнікоў мясцовай улады было цяпер па яго ўказе, а не па галасаванні жыхароў. Генадзь не хацеў быць прызначаным, ды Лукашэнка і не прызначыў бы яго.

**– Ці прыгадваў Генадзь Дзмітрыевіч Маладзечна?**

– Маладзечна да канца дзён заставалася для яго любоўю. Сачыў, што адбывалася ў горадзе пасля яго сыходу, перажываў і за няўдачы футбольнага клуба, і за фэсты, якія перасталі быць святамі. Хваляваўся, што людзі там гублялі веру ў заўтра. І быў рады, калі маладзечанцы па старой звычцы звярталіся да яго па дапамогу. Стараўся дапамагчы, нікога не пакінуць сам-насам са сваёй бядой.

Падчас трансляцыі фестывалю сядзеў на канапе, неадрыўна глядзеў у тэлевізар і каментаваў: вось гэты хлапчук з дзіцячага дома, а вось гэта дзяўчынка на мінулым фэсце атрымала прэмію. У мяне сціскалася сэрца ад несправядлівасці. Фестываль – яго дзіця, а без яго.

**Гутарыла Аксана ЯРАШОНАК.**

Поўны варыянт гутаркі з Людмілай Карпенкай чытайце на сайце **rh.by** ад 5 чэрвеня.

# Дзённік мамы трэцякласніцы: бывайце да верасня



**У мінулым застаўся не толькі Варварын трэці клас, але і амаль тыдзень летніх канікулаў. Пакуль гэты тыдзень не радуе ні добрым надвор'ем, ні вясёлымі масавымі мерапрыемствамі. А паход у бліжэйшую краму па хлеб успрымаецца як прыгода.**

Чацвертая чвэрць, што з-за пандэміі ніяк не магла пачацца, для Варвары скончылася з трыма дыпломамі і адной васьмёркай – па матэматыцы. Традыцыйна – дзясяткі па абедзвюх літаратурах, астатнія – дзявяткі. Дыпломы атрымала за старанне і імкненне да ведаў, за добры вынік на міжнародный алімпіядзе па рускай літаратуры і як адна з самых актыўных чытачоў школьнай бібліятэкі. Для параўнання – старэйшая сястра Юля атрымала адзін дыплом. Але Юля – выдатніца. Васьмёрак не мае.

З-за эпідэміялагічнай сітуацыі адмянілі афлайнавае правядзенне ўсіх конкурсаў. Таму з танцамі і дудкай дзятва ў конкурсах удзельнічала анлайн. У выніку Варварын танцавальны калектыў «Фісташкі» атрымаў некалькі дыпломаў, адзін нават з Масквы. У конкурсе «Вёска-фэст» адзначылі, і «Маладзечанскія дударыкі» са сваімі дудкамі сталі лаўрэатамі першай ступені.

**Анлайн-удзел Варвару цалкам задавальняе. Кажа, у Маскву ці паехалі б танцаваць, а так – і з дому не выходзілі, і дыплом атрымалі.**

За апошнюю чвэрць навучыліся дзяліць і множыць у слупок, вывучылі некалькі праграмных вершаў па рускай і беларускай літаратурах. Кніжкі, улічваючы няпростую пандэмічную абстаноўку, здалі раней, чым звычайна.

Будаваць планы на лета, пакуль няма як. Вядома адно: любімы Варварын прэзідэнт **Уладзімір Зяленскі**, хутчэй за ўсё, межы не адчыніць. А значыць, на моры мы не пагрэемся. Ды і тут, гледзячы на чэрвеньскае надвор'е, хутчэй за ўсё, не пагрэемся.

Калі раптам абстаноўка стане трохі лепшай, можа, пакатаемся па Беларусі. Адпачнём, набяромся эмоцый, пачытаем спіс літаратуры на лета. А ў верасні 2020 сустрэнемся з вамі, дарагія чытачы, у Дзённіку мамы чацвертакласніцы!

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Варвара радуецца летнім канікулам.



У маладзечанскай гімназіі №10 на лінейцы сярод школьнікаў прысутнічалі толькі 11 класы.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

# У масках і на дыстанцыі

## Як адзначылі апошні званок выпускнікі рэгіёна

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**30 мая ў школах і гімназіях рэгіёна зладзілі апошнія званкі. Былі традыцыйныя стужкі, слёзы і фотасесіі і нетрадыцыйныя, але патрэбныя сёлета – маскі і сацыяльная дыстанцыя.**

Карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты» наведалі святы ў маладзечанскай гімназіі №10 і Ільянчай сярэдняй школе імя Грымаця.

**У гімназіі №10 свята зладзілі на вуліцы. Настаўнікі былі ў пластыкавых шчытках, выпускнікі – у масках.**

Бацькі – таксама ў масках – на адлегласці здымалі дзяцей на камеры мабільнікаў. Быў традыцыйны вальс. Дзеля яго выпускнікі маскі знялі.

У Ільянскай сярэдняй школе імя Грымаця сёлета дзевяць выпускнікоў. Лінейку тут зладзілі ў зале з захаваннем мер бяспекі. На вахце ўсім прапаноўвалі апрацаваць рукі антысептыкам. А дырэктар **Ігар Юшко**, сустракаючы гасцей у фае школы на першым паверсе, усім нагадваў пра масачны рэжым і сацыяльную дыстанцыю.

**У актавай зале выпускнікі, а таксама нешматлікія бацькі і настаўнікі, расселіся ў шахматным парадку. Маскі здымалі хіба толькі для фота. Свята па традыцыі прайшло на беларускай мове.**

– Апошні званок – заўсёды адметны. Сёлета адметнасць яшчэ і з-за эпідэміялагічнай абстаноўкі. Першы раз за маю практыку адзначаем развітанне са школай у масках, вытрымліваючы дыстанцыю. Віншую вас з заканчэннем навучання. Жадаю моцнага здароўя, цярплівасці, стараннасці, – адзначыў дырэктар школы **Ігар Юшко**.

Усе ільянскія выпускнікі атрымалі дыпломы за поспехі ў вучобе, спорце, мастацкай самадзейнасці не толькі на школьным узроўні, а таксама на ўзроўні раёна і вобласці.

**Упершыню дырэктар узнагароджваў вучняў, не паціскаючы рукі.**



Дырэктар Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця Ігар Юшко ўзнагароджвае выпускніцу Юлію Усціновіч за поспехі ў вучобе.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Добрыя словы выпускнікам сказалі класны кіраўнік **Тацццяна Уладыка** і бацькі. Ад імя 11 класа са словамі падзякі выступіў **Ігнат Кандрашоў**.

Завяршылася свята апошнім званком, які далі вядучыя, дзесяцікласніцы **Марыя Шмаргалава** і **Лізавета Артамонава**.

**Аксана ЯРАШОНАК,**
**Настасся УТКІНА.**

# Хто пахаваны ў магіле ля Лукаўца і адкуль там з'явіўся помнік

## Краязнаўца даведаўся гісторыю пахавання

ВІЛЕЙКА

**Ля Лукаўца, што на Вілейшчыне, не так даўно з'явіўся помнік-крыж. Пра гэта «РГ» паведамілі мясцовыя жыхары. Адкуль браўся помнік, вяскоўцы не ведалі.**

### Невядомы помнік па дарозе праз Мардасы

Помнік з'явіўся па дарозе праз вёску Мардасы, каля фермы. На ім надпіс «Вечная память герою. Здесь захаронен партизан».

Мы звязаліся з ураджэнцам гэтых мясцін краязнаўцам **Алесем Раткевічам** і распыталі ў яго пра помнік.

– Адкуль браўся помнік, я не ведаю. Цікава таксама, адкуль вядома, што менавіта партызан пахаваны там. Да воінскіх пахаванняў ставяцца вельмі акуратна. Дакладна вядома, што ёсць магіла трох партызан на ўскрайку лесу каля вёскі Старынкі, што ля Лукаўца. Таксама партызан з усёй мясцовасці хавалі ў брацкай магіле ў Ілы. Ёсць магіла невядомага вайскоўца і ў Новай Гуце.

Алесь Раткевіч вырашыў даведацца гісторыю, звязаную з помнікам. А таксама паабяцаў адшукаць таго, хто гэты помнік паставіў. Абяцанне сваё спадар Алесь стрымаў. Прапануем вам гісторыю яго пошукаў.

**Аддзел інфармацыі.**

### Як спатрэбіліся даўнія архіўныя запісы

Шмат год таму мне пашчасціла сустрэцца са сведкамі жыцця за польскім часам і ў Другой сусветнай вайне. У мяне захаваліся рукапісы і аўдыёзапісы ўспамінаў карэнных жыхарак вёскі Дварэц, што каля Хаценчыцаў, **Леанілы Антонаўны Міцько (Папковіч)** і **Соф'і Мікалаеўны Дзік (Кратовіч)** – бабы Зоні. Самі яны ўжо адышлі ў іншы свет, але пакінулі шмат звестак пра ваеннае ліхалецце.

А вярнуцца да іх успамінаў і паварушыць свае архівы мяне прымусіла паведамленне ў «Рэгіянальнай газеце» ад мясцовых жыхароў з Лукаўца. Яны казалі, што нядаўна ля іх вёскі, на ўскрайку лесу, з'явілася адроджаная магілка па загінулым партызане.

Для мяне гэта было прыемнай нечаканасцю, бо пра трагічна загінулага партызана мне расказвалі калісьці вышэйзгаданыя жыхаркі Дварца. Толькі тады ад іх я не змог даведацца пра дакладнае месца пахавання, бо прайшло шмат часу.

А здарылася вось што. У 1943 годзе ў Дварцы кватараваў партызанскі атрад «Баец» брыгады імя Фрунзе. Адносіны паміж насельніцтвам і партызанамі былі добрыя. Пры такой ахове вяскоўцам жылося спакойна. Сюды баяліся заходзіць і немцы, і бандыты, якіх нямала швэндалася ў ваколіцах.

Партызаны хадзілі на заданні, вяскоўцы займаліся сваімі гаспадарчымі справамі. У вольны ад заданняў час партызаны ладзілі вечарынкі. І без кахання таксама не абыходзілася. Вайна вайной, але ўсе думалі пра сямейнае жыццё, пра мірную будучыню.

На кватэры ў Папковічаў жыў прысланы з Масквы малады сувязіст з рацыяй **Васька Рублеўскі** (магчыма, **Дубінін**). І закахаўся ён у прыгожую дзяўчыну **Ліпу**. Яе прыгажосць вабіла шматлікіх кавалераў. Паклаў вока на дзяўчыну і іншы партызан, **Максім**. І вось неяк аднойчы хлопцы сустрэліся на хутары, дзе жыла Ліпа. Прозвішча і назву хутара наўмысна не называю. Невядома, што здарылася і хто справакаваў спрэчку. Толькі ў выніку таго канфлікту Максім з рэвальвера смяротна параніў Ваську. На стрэл збегліся ўсе, хто быў на хутары. Бацька Ліпы разам з Максімам, паклаўшы параненага на воз, паімчалі ў партызанскі шпіталь, які месціўся ў вярсце, на хутары **Кастуся Шахрая**.

Пра далейшы лёс Ваські мне расказаў унук стрыечнага брата Кастуся Шахрая **Уладзімір Путырскі**. Ён даведаўся ад сваёй маці, а таксама ад самога гаспадара хутара. Калі Ваську прывезлі ў шпіталь, то доктар яму ўжо дапамагчы нічым не змог.

Уранку партызаны загадалі Шахраю пахаваць загінулага. А калі той спытаў, якое імя напісаць, у адказ пачуў: «Менш пытай ды язык за зубамі трымай». Кастусь пахаваў Ваську на ўскрайку лесу, непадалёк ад свайго хутара, паміж ліпамі і дубам. Абклаў па перыметры магілку камянямі і паставіў крыж без надпісу.



Фота Алеся РАТКЕВІЧА

Помнік, які нядаўна з'явіўся ля Лукаўца.

Уладзімір Путырскі нарадзіўся ў Мардасах і ў дзяцінстве часта бегаў на хутар, да ўнукаў дзеда Кастуся. Разам хадзілі да магілкі партызана, насілі туды кветкі, не давалі ёй зарастаць.

У 1960-х пачалася эпоха меліярацыі. Паступіў загад партыі ўсіх хутаран перасяліць у вёскі. Выселілі з калісьці ўласнай зямлі і Кастуся Шахрая. Праз год ад хутароў не засталося і следу. Да магілкі партызана наведваліся ўсё радзей і радзей.

Баба Зонька казала, што пасля вайны ў Мардасы прыязджала маці загінулага партызана Васі Рублеўскага (Дубініна). Хацела забраць астанкі на радзіму, ва Уладзівасток. Але ёй чамусьці ніхто не паказаў магілку. Ды і прозвішча яго тады ніхто не ведаў. Магчыма, пабаяліся парушыць загад партызан, каб не кампраметаваць партызанскі рух.

Спадар Уладзімір адразу пасля школы з'ехаў у горад. Але ўсё жыццё на кожныя выхадныя прыязджаў і прыязджае ў свой Дварэц, у бацькоўскі дом. Пасля палявання ці паходу ў грыбы, Уладзімір кожны раз заходзіў на магілку партызана.

І вось сёлета ён вырашыў да 75-годдзя Перамогі ў Другой сусветнай вайне добраўпарадкаваць магілку, пазначыўшы, чыя яна. Зрабіў гэта ціха. Дзякуючы Уладзіміру Путырскаму імя партызана з архіўнай старонкі знайшло свайго ўласніка. А безыменная магілка страціла свой статус безыменнай.



Фота забяспечана Алесем РАТКЕВІЧАМ.

Уладзімір Путырскі.

Хочацца падзякаваць усім мясцовым жыхарам, якія прынялі ўдзел у пошуках разгадкі па адроджанай магілцы. Гэта **Таццяна Косцік**, **Святлана Валовік**, **Яніна Літвіновіч** і іншыя. Асобная падзяка навуковаму супрацоўніку Вілейскага краязнаўчага музея **Вользе Коласавай** за ўдакладненні і кансультацыі па гэтай тэме.

Думаецца, што зноў агулам мы тую магілку абновім, усталюем капітальны помнік з прозвішчам абаронцы. Магчыма, адшукаем і родных. У звестках могуць быць недакладнасці з прозвішчам і імёнамі. Але іншых версій не існуе. Усе мясцовыя жыхары прытрымліваліся толькі гэтай.

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**


Фота pressball.by.

Новы трэнер дапусціў, што маладзечанская каманда стане фарм-клубам мінскага «Дынама».

## Канстанцін Кальцоў стаў галоўным трэнерам «Дынама»

Беларускі спецыяліст **Канстанцін Кальцоў** узначаліў «Дынама-Маладзечна». Новы галоўны трэнер паведаміў, што каманда, верагодна, зноў стане фарм-клубам мінскіх «зуброў».

Прапанова паступіла ад кіраўніцтва клуба. Кальцова падтрымалі і ў мінскім «Дынама».

– Я нядрэнна валодаю англійскай мовай. Гэта дазволіць падтрымліваць кантакт непасрэдна з галоўным трэнерам мінскага «Дынама» для пабудовы вертыкалі паміж асноўнай камандай і фарм-клубам, адаптацыі гульцоў, якія адпраўляюцца ў фарм-клуб, падрыхтоўкі іх у рамках адной сістэмы.

Кальцоў сказаў, што памочнікі прыйдуць у маладзечанскі клуб разам з ім. Спецыяліст удакладніў, што праца па камплектаванні складу ўжо паволі ідзе, аднак ён заўважыў, што шмат будзе залежаць ад сітуацыі ў мінскім «Дынама».

– Пры падпісанні хакеістаў мы павінны арыентавацца на прынцыпы працы штаба Крэйга Вудкрафта. Гэта, дарэчы, адна з галоўных прычын, чаму я пагадзіўся працаваць у «Дынама» ў Маладзечне. Мне спадабалася гэта ідэя. Гэта правільна. Калі каманда гуляе ў КХЛ, то павінны быць фарм-клуб, які рыхтуе гульцоў па адзінай сістэме, а не гуляе сам па сабе, – сказаў Кальцоў для hockey.by.

Раней 39-гадовы Кальцоў працаваў у штабе Гордзі Дуаера ў мінскім «Дынама» (2017-2018) і кіраваў «Брэстам» у сезоне-2018/19.

У мінулым сезоне галоўным трэнерам «Дынама-Маладзечна» быў **Дзмітры Краўчанка**. Каманда прайграла ў паўфінале плэй-оф «Юнацтву».

**Паводле by.tribuna.com.**



Фота ex-press.by.

Генадзя Мардаса называлі ў камандзе Чакам Норысам і Старэйшым Таварышам.

# Памёр Генадзь Мардас – былы гулец «Смаргоні»

**2 чэрвеня памёр адзін са знакамітых беларускіх футбалістаў Генадзь Мардас. Ён выступаў за БАТЭ, мінскае «Дынама», «Смаргонь» і іншыя клубы Беларусі і Украіны. «РГ» распавядае пра спартыўную кар'еру і жыццё Генадзя Мардаса.**

### Кар'ера пачалася з мінскага «Дынама»

Генадзь нарадзіўся ў Мінску 12 чэрвеня 1970 года. Быў выхаванцам СДЮШАР мінскага «Дынама». Яго першы трэнер – украінскі спецыяліст, які працаваў у Беларусі, – **Анатоль Багавік**. У 1987 годзе Мардас правёў адзін матч у Кубку федэрацыі за мінскае «Дынама».

**У 1991 годзе сышоў з «Дынама» ва ўкраінскую «Зару» з Луганска. Потым, у 1992 годзе, вярнуўся ў Беларусь: выступаў за «Прамень», гродзенскі «Нёман».**

У 1998 годзе перайшоў у сімферопальскую «Таўрыю». Пазней выступаў у БАТЭ і зноў у «Нёмане».

**З 2006 года гуляў за «Смаргонь». У 2009 годзе стаў старэйшым (гуляючым) трэнерам смаргонскага клуба. У 2010-2011 гадах – галоўны трэнер «Смаргоні».**

Да 2015 года працаваў у структуры гродзенскага «Нёмана».

Генадзь Мардас правёў у вышэйшай лізе беларускага чэмпіянату больш за 350 матчаў.

**Мардас быў чэмпіёнам Беларусі, уладальнікам Кубка Беларусі, тройчы сярэбраным прызёрам чэмпіянату Беларусі і бронзавым прызёрам чэмпіянату Беларусі.**

### Пра дамоўныя матчы

Генадзь Мардас негатыўна адносіўся да дамоўных гульняў і гульцоў, якія ў такім матчах удзельнічалі. Ён успамінаў, што ў 2005 годзе ў яго камандзе амаль адбылася падобная сітуацыя. Тады Мардас перайшоў з БАТЭ ў «Нёман».

**– Ішло ўсё ад аднаго легіянера. Ён «падкаціў да старычкоў» – маўляў, трэба пагаварыць. Сабраліся мы і пытаемся: ну? Ён: ёсць магчымасць зарабіць. Натуральна, сказалі «не»: спынілі ўсё з самага пачатку – і нездаровыя размовы адразу скончыліся. Такія гульні – здрада футболу: ніколі ў іх не ўдзельнічаў.**

### Мянушкі, цыгарэты і Печы

У БАТЭ Генадзь Мардас адразу атрымаў мянушку – малады Чак Нарыс. Мянушку даў **Юры Пудышаў**. Мардас думаў, што гэта з-за знешняга падабенства. Аднак і ўспамінаў, што партнёры па камандзе называлі часцей Старэйшым Таварышам, а не Чакам Нарысам.

Генадзь прызнаваўся ў інтэрв'ю «Прессболу», што пачаў курыць пасля арміі ў 19 год.

– Ну так, куру – і да гэтага часу не магу пазбавіцца ад гэтай звычкі. Калі першы раз ляжаў у бальніцы, два тыдні абыходзіўся без цыгарэт – не да гэтага было. Потым зноў зацягнула.

Мардас служыў у Печах яшчэ ў СССР. Напрыканцы 1980-х гуляў за дубль мінскага «Дынама».

**Яму сказалі, што службу ён будзе сумяшчаць з трэніроўкамі. Аднак усё роўна забралі ў вясеннім прызыве 1988 года. Ён распавядаў, што ў той час была дзедаўшчына, салдатам спачатку было цяжка там служыць.**

### Паставілі сур'ёзны дыягназ у Смаргоні

У 2016 годзе прайшоў матч ветэранаў БАТЭ супраць італьянскага «Мілана». Гледачы чакалі пабачыць на полі Генадзя Мардаса, аднак ён не з'явіўся. Пасля на прэс-канферэнцыі **Анатоль Капскі** сказаў, што ў Мардаса праблемы са здароўем.

**У інтэрв'ю «Прессболу» Генадзь шчыра распавёў пра дыягназ – рак кішэчніка, які яму паставілі дактары ў Смаргоні.**

– Рэальна такі стан: ляжаў бы пад рукой пісталет – дакладна застрэліўся б, – успамінаў Генадзь.

У Смаргоні зрабілі і першую аперацыю, потым Мардас праходзіў лячэнне ў Бараўлянах.

Рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» выказвае спачуванні родным і блізкім Генадзя Мардаса.


Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Ваза для маскіроўкі кветкавага гаршка.
3. Вадзяны вал, які ўтвараецца гайданнем паверхні вады.
5. Невялікая бутэлечка, пераважна для духоў.
6. Рабочы, які працуе пад вадой у спецыяльным воданепранікальным касцюме.
10. Перасяленец з якой-небудзь краіны.
11. Поўны радасці; жыццярадасны.
12. Сукупнасць устойлівых псіхічных уласцівасцяў чалавека, яго асабістых рыс, якія праяўляюцца ў паводзінах і дзейнасці.
14. Штаны з кароткімі калошамі.
15. Вялікі камень – абломак горнай пароды.
18. Травяністая аднагадовая расліна сямейства бабовых.
19. Калі ён здарыўся, званіць трэба па нумары «101».
20. Праверка ведаў; экзамен.
22. Кісць рукі з прыгнутымі да далоні пальцамі.
23. Касцюм для купання.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Скрынка з невысокімі сценкамі і дном, зробленая з дошак ці фанеры, якая служыць для захоўвання, складвання рэчаў.
4. Шаравідны персанаж казкі.
7. 13 чэрвеня 1920 года ў ЗША прынялі закон, які забараняў паштовай службе адпраўляць іх пасылкамі.
8. Імя прынцэсы, галоўнай гераіні мультфільма «Храбрая сэрцам».
9. Малюнак у кнізе, часопісе, які суправаджае тэкст або тлумачыць змест.
13. Высокая тэмпература.
15. Імя брата Кастуся Каліноўскага.
16. Садавіна.
17. Галаўны ўбор з каштоўнымі ўпрыгажэннямі, які з'яўляецца знакам улады манарха.
18. Творчае ўяўленне.
21. Брус, які кладзецца ўпоперак чыгуначнага насыпу як апора пад рэйкі.
22. Ласкавая хатняя жывёліна.
24. Папрок, незадавальненне.

## Адказы на крыжаванку з №22

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Экзамен. 4. Сябар. 5. Небасхіл. 6. Сцэна. 7. Вогнішча. 9. Ягада. 11. Том. 12. Сырароб. 13. Дэталь. 16. Кроў. 17. Нумар. 18. Нацыя. 21. Свіраны.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Эвалюцыя. 2. Чужак. 5. Неалагізм. 6. Створ. 8. Эгаіст. 10. Дазатар. 12. Слова. 14. Чакаць. 15. Драма. 18. Набор. 19. Якасць. 20. Дагавор. 22. Шафы.

● ГАРАСКОП РАСЛІН

## 5 чэрвеня – Сусветны дзень навакольнага асяроддзя. Давайце даведаемся, якая расліна будзе спрыяць вам?

**АВЕН.** Вам падыдуць расліны, якія ўмацуюць унутранае «Я», дапамогуць асабістаму поспеху і дасягненню мэт. Паспрабуйце завесці карлікавы гранат, садовую герань, бягонію каралеўскую, малачай бліскучы.

**ЦЯЛЕЦ.** Ад раслін вы можаце атрымаць падтрымку для вынослівасці і энергетыку для больш насычанага жыцця. Вашы расліны – фіялка, каланхоэ, цыкламен, бягоніі, прымулы. Нізкарослыя расліны будуць падтрымліваць вас і дадаваць сіл.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вам пасуюць расліны з пышным лісцем, якія дапамогуць ачысціць атмасферу ў доме і палепшыць фізічнае і псіхічнае здароўе. Гэта папараці, аспарагусы, плюшчы, перыстыя пальмы, хларафітум.

**РАК.** Вам будуць спрыяць расліны, што дапамагаюць захоўваць шчасце ў доме. Гэта агава амерыканская, алоэ, бягонія Мэсана, дыфенбахія, каланхоэ бехарскае, кустаўдныя пеперомії, маргана, фуксія гібрыдная.

**ЛЕЎ.** Вашы кветкі будуць спрыяць поспеху ў каханні і творчасці. Важна, каб у іх было добрае асвятленне і як мага больш сонца. Для вас падыдуць амарантус, бальзамін, гардэнія, кала, камелія японская, мімоза, герань царская, ружа кітайская.

**ДЗЕВА.** Патрэбныя расліны падтрымаюць і здароўе, і вастрыню інтэлекту. Добрае суседства будзе не толькі з дэкаратыўнымі раслінамі, але і пладовымі. Звярніце ўвагу на драцэну, цысус, філадэндран.

**ШАЛІ.** Вашы расліны прыгожыя і стройныя. Яны дапамогуць развіваць тонкі густ і партнёрскія адносіны. Гэта азалія індыйская, ананас, дзекабрыст, мексіканскі перац, хрызантэма, лілія, гартэнзія.

**СКАРПІЁН.** Вам патрэбныя расліны, што дапамогуць развіваць незвычайныя здольнасці. Кактусы, стапелія, алоэ, драцэна, алеандр. Добрае суседства для вас з расянкай або венерынай мухалоўкай.

**СТРАЛЕЦ.** Вас падтрымаюць расліны, што спрыяюць поспеху ў падарожжах і новых ведах. Пакаёвыя бансаі, пакаёвы вінаград, лімон, клівія кінаварная. Цытрусавыя асабліва вам спрыяюць.

**КАЗЯРОГ.** З вамі добра пасябруюць расліны, што дапамагаюць ў працы і падтрымманні фігуры. Драцэна духмяная, хваёвыя, юка слановая, фікусы, веерныя пальмы, таўсцянкі.

**ВАДАЛЕЙ.** Вашы расліны тыя, што спрыяюць наватарам. Яны дапамагаюць знаходзіць новыя нестандартныя шляхі. Пакаёвы клён, драцэна Годсефа, калатэя, калеус.

**РЫБЫ.** Расліны, што найбольш пасуюць вам, – для развіцця духоўнасці. Вы самы адухоўлены знак. Таму вам дапамогуць акварыумныя расліны, герані духмяныя, архідэі, папірус, фікусы ампельныя.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | | 4 | 3 | | | |
| | | 1 | | 7 | | | | |
| 9 | | 6 | | 1 | | | | 4 |
| 6 | | 9 | | 2 | 7 | | | |
| | | 5 | | 3 | 8 | | | |
| | | 3 | 4 | 5 | | 8 | | |
| 5 | | | | 6 | | 1 | 8 | |
| | 6 | | | 9 | | | 2 | |
| | 9 | | | | | 3 | 7 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Якія фільмы і серыялы вас уразілі ў апошні час?

**Алена Булкоўская, доктар, Вілейка:**
– У апошні час амаль не даводзілася глядзець фільмы. Памятаю, што паглядзела камедыю «Халоп». Мне спадабалася, але сказаць, каб уразіла, не магу. Уразіць, напэўна, магло б штосьці больш сур'ёзнае.



**Таццяна Памецька, у дэкрэтным адпачынку, Астравец:**
– Апошні раз глядзела «Белыя росы: Вяртанне».



**Святлана Андрашчук, гаспадыня, Вілейка:**
– Даўно нічога не глядзела.



**Сяргей Дурко, спецыяліст па продажах, Маладзечна:**
– Я гляджу старыя і ваенныя фільмы.



**Ганна Дурко, кухонная работніца, Маладзечна:**
– «Прыгоды Шурыка», «Іван Васільевіч мяняе прафесію».



**Марына Няхайчык, кіроўца таксі, Маладзечна:**
– Серыял «Цудоўны век».



**Таццяна Андрашчук, школьніца, Вілейка:**
– «Гульня тронаў», «Вострыя казаркі», «Амерыканская гісторыя жахаў», «Англійскі пацыент», «Галава ў аблоках».



**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

● #РГ25

## Яўгенія Кулевіч, чытачка:
# «Цяпер буду зімой і летам з «Рэгіянальнай газетай»

**«Рэгіянальная газета» працягвае прымаць віншаванні з 25-годдзем. На гэты раз віншуе чытачка Яўгенія Кулевіч са Смаргоншчыны.**

— Дарагая рэдакцыя, газету пачала выпісваць нядаўна. А блізка з ёй пазнаёмілася раней, бо сын з Маладзечна прывозіў яе рэгулярна. Газета мне спадабалася, бо асвячаецца жыццё не толькі твайго, а і суседніх раёнаў, што вельмі вабіць. Тэмы асвячаюцца разнастайныя, даюцца без прыўкрас і фіксуюцца розныя погляды на падзеі і факты.

**Чытаючы газету, адчуваеш сябе сапраўдным беларусам, бо газета кіруецца прынцыпам – не трэба гаварыць пра мову, а трэба гаварыць на ёй, што сама газета і робіць.**

Гэта і ёсць самая лепшая рэклама ёй. Газета рэкламамі не злоўжывае, а друкуе больш прыватныя абвесткі рэгіёна. Шмат увагі надаецца жыццю і лёсу простых людзей, людзей яскравых, душэўна багатых. Тут знаходзяць месца і каляндар падзей, гісторыка-краязнаўчыя матэрыялы. Усё гэта ўзбагачае газету, садзейнічае цеснай сувязі з чытачом.

**Ёсць жаданне і самому напісаць у газету, падзяліцца сваімі думкамі.**

Я чытаю газету ад «А» да «Я», дзялюся ўражаннямі з блізкімі. Цяпер буду зімой і летам з «Рэгіянальнай газетай». Зычу калектыву рэдакцыі плёну ў працы і шчырых чытачоў!

***

Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.

А таксама посціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!

## Чытайце праз тыдзень:

- **У 1939 годзе Міхася Сцебурака на станцыі Княгінін родныя праводзілі ў Войска Польскае. І з таго часу больш не бачылі. Ведалі пра тое, што ён загінуў, але без падрабязнасцяў. Шмат шукалі, падключалі нават Вільню. Але толькі дзякуючы спісу «вераснёвых смертнікаў», надрукаваным у №19 «Рэгіянальнай газеты», даведаліся дакладную дату смерці і месца пахавання.**

## 6 чэрвеня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 9-10 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +2,7°С у 1962 годзе
Максімальная тэмпература +29,2°С у 1988 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 16,1 мм у 1994 годзе

Паводле meteoinfo.by.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№23 (1310) 5.06.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 931. Падпісана ў друк у 9.00 4.06.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.